● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў

2 чэрвеня 1998 г. аўторак, № 113 (23464)



# ЗВЯЗДА



ПАДЗЕЯ ДНЯ

Першы выпускны экзамен у мінскай школе № 49.
Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.

## ПРЭЗІДЭНТ ЗАСЛУХАЎ СПРАВАЗДАЧУ КІРАЎНІКА КАМІТЭТА ДЗЯРЖАЎНАГА КАНТРОЛЮ

Старшыня Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь Мікалай Дамашкевіч 29 мая далажыў кіраўніку дзяржавы аб рабоце міністэрстваў, ведамстваў, органаў улады, гаспадарчых кіраўнікоў па выкананню Указа прэзідэнта рэспублікі № 344 «Аб своечасовай выплаце заработнай платы, пенсій, стыпендый і дапамог». У справаздачы кіраўніка Дзяржкантролю быў прыведзены аналіз стану спраў, высновы і прапановы.

Прэзідэнт краіны яшчэ раз запатрабаваў павысіць эфектыўнасць кантролю над работай кіруючых кадраў усіх узроўняў па арганізацыі канкрэтных стваральных спраў, вытворчасці, эфектыўнага гандлю. Была звернута ўвага міністраў сельскай гаспадаркі і харчавання, прамысловасці, архітэктуры і будаўніцтва, а таксама кіраўнікоў канцэрна «Мясцпрам», Белкаапсаюза, Белбытсаюза і аблвыканкамаў на факты парушэнняў патрабаванняў гэтага Указа, якія маюць месца. Пры неабходнасці даручана разгледзець гэтыя пытанні на калегіі Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь.

У ходзе справаздачы і аналізу прапаноў Камітэта дзяржаўнага кантролю прэзідэнт краіны вялікую ўвагу ўдзяліў пытанням, звязаным з аздараўленнем дзяцей, асабліва дзяцей-інвалідаў і тых, якія пражываюць у забруджаных зонах, кошту летняга адпачынку. Даручана прааналізаваць структуру цэн на пуцёўкі, унесці прапановы па рабоце арганізацый, аб'яднанняў, фондаў з мэтай высвятлення іх канкрэтнай ролі і ўкладу ў справу аздараўлення дзяцей і працуючага насельніцтва рэспублікі.

Мікалай Дамашкевіч далажыў таксама аб папярэдніх выніках работы камісіі, створанай прэзідэнтам з мэтай вывучэння сітуацыі ў эканоміцы краіны. Кіраўнік дзяржавы даручыў прадоўжыць работу камісіі, асаблівую ўвагу пры гэтым удзяліць рабоце кадраў усіх узроўняў па павышэнню іх адказнасці за канкрэтны вынік.

Прэзідэнту краіны расказана аб становішчы на харчовым рынку, аб сур'ёзных недахопах і хібах у рабоце Белкаапсаюза, Мінгандлю, Мінсельгасхарча, аблвыканкамаў, а таксама аб тэндэнцыі, якая намецілася ў рабоце Мінэканомікі і Мінзнешэканамсувязяў, на неўмяшанне ў сітуацыю з фарміраваннем цэн, гандаль і насычэнне гандлёвай сеткі шырокім асартыментам прадуктаў харчавання, тавараў народнага спажывання.

Аляксандр Лукашэнка запатрабаваў забяспечыць у тыднёвы тэрмін безумоўнае выкананне міністрамі Рэспублікі Беларусь, іншымі службовымі асобамі рашэнняў калегіі Камітэта дзяржаўнага кантролю і запіскай далажыць прэзідэнту краіны.

Кіраўнік дзяржавы падтрымаў прапановы М. Дамашкевіча па ўдасканаленню структуры цэнтральнага апарату Камітэта дзяржаўнага кантролю з мэтай больш эфектыўнага выкарыстання наяўнага кадравага патэнцыялу. Ён таксама прыняў рашэнне аб фінансаванні будаўніцтва жылля для супрацоўнікаў камітэта Дзяржаўнага кантролю.

Прэзідэнт краіны прыняў і іншыя рашэнні, зрабіў канкрэтныя даручэнні службовым асобам рэспублікі.

**БЕЛТА.**

## БЯРЭШ ЭНЕРГАРЭСУРСЫ — ПЛАЦІ

**Мінскі гарвыканкам мае намер змяніць парадак аплаты насельніцтва за энергарэсурсы. У прыватнасці, плануецца, што ў будучым гараджане будуць абавязкова разлічвацца за газ і электраэнергію непасрэдна ў тым жа месяцы, калі яны іх спажываюць.**

Зараз, як вядома, дзейнічае парадак аплаты, пры якім пеня не налічваецца даволі працяглы час — да месяца. Напрыклад, карыстаючыся на працягу ўсяго мая энергарэсурсамі, большасць толькі ў канцы чэрвеня пойдзе аплачваць іх, бо толькі тады грамадзяне рызыкуюць трапіць пад пэўныя штрафныя санкцыі. Між тым разлікі за пастаўку ў краіну энергарэсурсаў чакаць не могуць.

На думку спецыялістаў Мінгарвыканкама, кішэню спажыўца новаўвядзенне даволі адчувальна можа закрануць толькі аднойчы, калі адзіны раз давядзецца заплаціць адразу за два месяцы — за мінулы і бягучы. Нагадаем, што ў свой час менавіта на такія «рэйкі» быў пераведзены парадак аплаты за карыстанне тэлефонам.

Свае прапановы Мінгарвыканкам вынес на разгляд Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Калі апошняя дасць «дабро», яны могуць трапіць у Жыллёвы кодэкс, які пакуль не прыняты вышэйшымі органамі ўлады. Разам з тым спецыялісты падкрэсліваюць, што ўводзіць у дзеянне новы парадак аплаты за энергарэсурсы лепш за ўсё летам, пакуль не пачаўся ацяпляльны сезон.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ГАРАЧУЮ ВАДУ ПАВІННЫ АДКЛЮЧАЦЬ НЕ БОЛЬШ ЧЫМ НА 30 ДЗЁН

З надыходам так званага міжацяпляльнага сезона камунальнікі пачалі планавае адключэнне гарачага водазабеспячэння. Графікі складаюцца спачатку энергетыкамі, потым яны зацвярджаюцца мясцовымі выканаўчымі камітэтамі. Такое правіла было зацверджана яшчэ ў 1988 годзе спецыяльнай пастановай Белэнерга і Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Адключэнне павінна праходзіць да 1 верасня, работы па крыніцах ацяплення — да 15 кастрычніка.

Прычым гарачая вада адсутнічае ў нашых кранах не больш чым месяц, час правядзення рамонту вызначаны ў 30 дзён. Гэта апошні тэрмін. Калі ж няма гарачай вады больш за месяц, неабходна звярнуцца ў жыллёва-эксплуатацыйную службу па тлумачэнні. Магчыма, тэрміны правядзення работ падоўжаны, але здараецца, што яны зацягваюцца па віне рамонтнікаў. Тым не менш, грошы за гэтую паслугу не налічваюцца. Пры адсутнасці вады больш за тры дні кожны жыхар мае права патрабаваць змяншэння аплаты.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

ЗДАРЭННІ

## У ТАМБУРЫ ЖЫЛОГА ДОМА РВАНУЛА БОМБА

**Нядаўні выпадак у Віцебску, калі ў арцы дома было знойдзена і абясшкоджана выбухованебяспечнае прыстасаванне, на жаль, у сталіцы рэспублікі меў больш сумныя наступствы. На шчасце, ніхто не пацярпеў, аднак выбух усё ж такі прагучаў у жылым доме. Грымнула ў тры гадзіны ночы на вуліцы Цімашэнкі.**

Пакуль вядзецца следства, пэўныя падрабязнасці яго нам невядомы. Аднак дакладна можна сцвярджаць, што прыстасаванне, якое было закладзена ў агульным тамбуры дзвюх кватэр, пакуль праходзіць па пратаколу як неўстаноўленага ўзору. Разбіраюцца аператыўнікі і ў тым, каму спатрэбілася падымаць на ногі жыхароў дома, для каго прызначаўся выбухованебяспечны зарад і, наогул, ці не мелі тут месца банальныя хуліганскія матывы. Аднак трэба прызнаць, што для хуліганаў дадзены выбух — гэта ўжо занадта. Як паведамілі карэспандэнту газеты, хваляй ад выбуху пашкоджаны дзверы абедзвюх кватэр. Між тым, у адной з іх жыве работніца мясакамбіната, а ў другой — работнік аптэчнага склада. Магчыма, гэтыя людзі змогуць даць якое-небудзь тлумачэнне начному здарэнню...

**Ігар ГРЫШЫН.**

## БЕЛАРУСКІЯ ГІМНАСТКІ-«МАСТАЧКІ» ЗНОЎ ПРАЛІЛІ «ЗАЛАТЫЯ» СЛЁЗЫ

**У партугальскім горадзе Порту ўчора завяршыўся чэмпіянат Еўропы па мастацкай гімнастыцы, на якім разыгрываліся медалі ў камандным і абсалютным першынстве, а таксама ў асобных практыкаваннях — са скакалкай, абручом, булавой і лентай.**

Прыемна, што свой высокі клас пацвердзілі беларускія дзяўчаты: Яўгенія Паўліна, Юлія Раскіна і Валерыя Ваткіна. Наша трыо «мастачак», паўтарыўшы поспех на нядаўнім сусветным першынстве ў Іспаніі, заваявала «золата». Вынік чэмпіёнак — 79.298 бала. Сярэбраныя ўзнагароды дасталіся ўкраінкам — 79.179, а «бронза» ў расіянак — 79.069.

Выдатна выступіла ў абсалютным заліку Яўгенія Паўліна, заняўшы другое месца — 39.724 бала. Яна зусім крыху адстала ад 15-гадовай масквічкі Аліны Кабаевай.

У пяцёрцы мацнейшых спартсменак кантынента і Юлія Раскіна.

Апошнім відам ў праграме еўрапейскага чэмпіянату былі выступленні ў індывідуальных дысцыплінах. І тут нашы «мастачкі» не падкачалі. Яўгенія Паўліна атрымала «золата» за практыкаванні з лентай, а Юлія Раскіна стала трэцяй у практыкаваннях з булавамі.

Брава!!!

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## НАЦБАНК ПЛАНУЕ ДА 1 КАСТРЫЧНІКА ЗАБЯСПЕЧЫЦЬ АДЗІНЫ КУРС БЕЗНАЯЎНАГА РУБЛЯ НА ТАРГАХ МББ У МІНСКУ І НА ЗНЕШНІХ РЫНКАХ

**У пятніцу журналісты мелі магчымасць з першых вуснаў атрымаць інфармацыю аб тым, як рэалізуецца ў краіне праграма неадкладных мераў па стабілізацыі валютнага рынку і абменнага курса беларускага рубля. Аб гэтым расказаў старшыня праўлення Нацыянальнага банка Беларусі Пётр Пракаповіч.**

Паводле слоў кіраўніка Нацбанка, ужо праведзена пэўная работа па забеспячэнню выканання прагнозных паказчыкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця ў 1998 годзе і эканамічнага росту як галоўнай мэты нашага развіцця. У прыватнасці, павялічыліся крэдытаванне народнай гаспадаркі і паток інвесціравання прадпрыемстваў, праведзена пэўная работа па зніжэнню стаўкі рэфінансавання, а таксама па стварэнню ўмоў, якія робяць крэдыты больш даступнымі для вытворцаў.

Аднак, бадай, цэнтральнай тэмай прэс-канферэнцыі сталі пытанні, звязаныя з палітыкай курсаўтварэння. Не абышлося на гэты раз без цікавых падрабязнасцяў па гэтых пытаннях.

Як вядома, праграма неадкладных мераў, была разлічана да канца года. Аднак, як заявіў Пётр Пракаповіч, прааналізаваўшы ход яе выканання і ўважліва вывучыўшы ўсе пытанні, Нацбанк выйшаў на кіраўніцтва краіны з прапановай аб паскарэнні праграмы. «Змяненні акалічнасцяў у лепшы бок даюць падставы для гэтага», — сказаў кіраўнік галоўнай фінансавай установы. Плануецца, што ўжо да 1 жніўня для паскарэння праграмы ўдасца давесці разлікі за імпарт і экспарт тавараў у беларускіх рублях да 5 працэнтаў, а таксама пачаць каціроўкі нацыянальнай валюты на знешніх рынках. Як вынік, з'яўляецца магчымасць зняць абмежаванні па разліках нерэзідэнтаў з рэзідэнтамі ў беларускіх рублях.

Нацбанкам прынята рашэнне і аб тым, што да 1 кастрычніка плануецца забяспечыць адзіны курс безнаяўнага беларускага рубля на таргах Міжбанкаўскай валютнай біржы і знешніх рынках. Дарэчы, перспектывы такога курса пры ўмове выканання праграмы, на думку банкіра, адлюстроўцца ў лічбе, якая складзе нешта сярэдняе паміж сённяшнім курсам у Мінску і на знешніх рынках. Калі ўлічыць той факт, што гэтыя каціроўкі складаюць адпаведна 47 і 64 тысячы рублёў за долар, то курс у такім разе будзе прыблізна складаць каля 55 тысяч рублёў. Плануецца да 1 кастрычніка таксама забяспечыць адзіны курс наяўнага рубля ў рэспубліцы. Што датычыцца апошняга этапа праграмы, то ім прадугледжваецца да пачатку наступнага года забяспечыць выхад на адзіны курс нацыянальнай валюты.

І яшчэ адзін момант з прэс-канферэнцыі. Закранаючы пытанне аб тэрміновых валютных укладах насельніцтва, Пётр Пракаповіч паведаміў аб тым, што прырост апошніх пасля выхаду Дэкрэта аб гарантыях пераўзышоў усе чаканні банкіраў. Так, пачынаючы з 22 красавіка па 15 мая сума падобных укладаў са 130 мільёнаў долараў вырасла да 137 мільёнаў. Прычым 60 працэнтаў валютных укладаў насельніцтва знаходзіцца ў ААБ «Беларусбанк».

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 1 ЧЭРВЕНЯ 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (0-17) | | | | | | | |
| Белпрамбудбанк | 47000 | 48000 | 25700 | 26900 | 7200 | 7800 | 233-2110 |
| Мінсккомплексбанк | 47500 | 48000 | 26500 | 26900 | 7700 | 7800 | 228-2047 |
| Пріорбанк | 47500 | 48000 | 26500 | 26900 | 7700 | 7800 | 245-5721 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 35860.00 | | 20172.13 | | 5820.00 | | Курс на 2.06.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 6.1650 | | 3.4590 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Рынкавы намінальны курс (міжбанкаўскі рынак) | 66000 | 69000 | 37131 | 38825 | 10688 | 11183 | |
| Рэальна абгрунтаваны намінальны курс (прыблізна) | 58000 | 58500 | 32600 | 33100 | 9100 | 9600 | |

**Працягваецца падпіска на «ЗВЯЗДУ» на другое паўгоддзе 1998 года.**

Нагадваем індэкс «Звязды»:
63850 — для індывідуальных падпісчыкаў,
63239 — для ведамасных падпісчыкаў .

*Падпісная цана «Звязды»*
*на месяц — 29.000 руб. для індывідуальных падпісчыкаў,*
*50.000 руб. для ведамасных падпісчыкаў;*
*на 3 месяцы — 87 тысяч і 150 тысяч адпаведна;*
*на 6 месяцаў — 174 тысячы і 300 тысяч адпаведна.*

**Памятайце: «ЗВЯЗДА» — гэта самая свежая і самая патрэбная інфармацыя.**

**Постоянно реализуем:**

цемент, шифер, трубы асбестоцементные, рубероид, битум, стекло, мел, арматуру.

**Тел.: (017) 220-51-14, 220-36-76.**

## З ПАЧАТКУ ГОДА БЕСПРАЦОЎНЫХ ПАМЕНЕЛА НА 10 ПРАЦЭНТАЎ

**Больш чым на 13 тысяч зменшылася за 4 месяцы гэтага года колькасць жыхароў Беларусі, зарэгістраваных у службах занятасці насельніцтва.**

Такім чынам, паводле афіцыйных даных, на 1 мая ў краіне было 112 тысяч 969 беспрацоўных. Разам з тым з пачатку года у службы занятасці звярнуліся 72 тысячы 897 грамадзян краіны. За гэты час службы занятасці працаўладкавалі 53 тыс. 717 чалавек і накіравалі на прафесійнае навучанне 12 тыс. 297 жыхароў краіны. Сярэдні памер дапамогі па беспрацоўю зараз складае 325 тыс. 600 рублёў. Увогуле такую дапамогу атрымліваюць у Беларусі 47 тыс. 851 чалавек.

**Сяргей КУРКАЧ.**

## ДЭКРЭТ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 7

### АБ УНЯСЕННІ ЗМЯНЕННЯЎ І ДАПАЎНЕННЯ Ў ДЭКРЭТ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АД 3 МАЯ 1997 г. № 12

У адпаведнасці з часткай трэцяй артыкула 101 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь **пастанаўляю:**

1. Унесці ў Дэкрэт Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 3 мая 1997 г. № 12 «Аб некаторых мерах па ўдасканаленню адвакацкай і натарыяльнай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь» (Збор дэкрэтаў, указаў Прэзідэнта і пастаноў Урада Рэспублікі Беларусь, 1997 г., № 14, арт. 485) наступныя змяненні і дапаўненне:

1.1 у пункце 1:

падпункт 1.6 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«1.6. за ўчыненне натарыяльных дзеянняў прыватным натарыусам бярэцца дзяржаўная пошліна і натарыяльны тарыф, які паступае ў яго даход у парадку, што вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь»;

частку другую падпункта 1.8 пасля слова «пошліны» дапоўніць словамі: «натарыяльнага тарыфу»;

1.2. у пункце 3 словы: «на 1 год» замяніць словамі: «да прыняцця адпаведнага рашэння Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь».

2. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь да 1 ліпеня 1998 г.:

па ўзгадненню з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь устанавіць стаўкі натарыяльнага тарыфу, што бярэцца прыватнымі натарыусамі за ўчыненне натарыяльных дзеянняў, у залежнасці ад складанасці гэтых дзеянняў;

забяспечыць прывядзенне ў адпаведнасць з гэтым Дэкрэтам актаў заканадаўства.

3. Гэты Дэкрэт уступае ў сілу з дня яго апублікавання, за выключэннем падпункта 1.1 пункта 1, які ўводзіцца ў дзеянне з дня ўступлення ў сілу адпаведнага рашэння Урада Рэспублікі Беларусь, з'яўляецца часовым і ў адпаведнасці з часткай трэцяй артыкула 101 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь прадстаўляецца на разгляд Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

27 мая 1998 г.
г. Мінск.

## НАРАДА Ў КІРАЎНІКА АДМІНІСТРАЦЫІ ПРЭЗІДЭНТА

Кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь М. У. Мясніковіч правёў нараду, на якой абмеркаваны інфармацыйна-палітычныя мерапрыемствы ў сувязі з маючым адбыцца 50-годдзем прыняцця Дэкларацыі правоў чалавека. У нарадзе прынялі ўдзел намеснік прэм'ер-міністра, кіраўнік нацыянальнага камітэта па святкаванню 50-годдзя Дэкларацыі У. П. Замяталін, прэзідэнт Нацыянальнай акадэміі навук А. П. Вайтовіч, намеснікі кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта І. І. Пашкевіч і А. М. Абрамовіч, кіраўнікі рэспубліканскіх сродкаў масавай інфармацыі, кіруючыя работнікі шэрагу міністэрстваў, супрацоўнікі Адміністрацыі Прэзідэнта.

Перад прысутнымі выступіў М. У. Мясніковіч. У ходзе абмену думкамі падкрэслівалася неабходнасць самай актыўнай работы, асабліва ў сродках масавай інфармацыі, накіраванай на растлумачэнне правоў чалавека і звязаных з гэтай праблемай палітычных спекуляцый, на шырокае асвятленне мерапрыемстваў, што праводзяцца ў рэспубліцы нацыянальным камітэтам па святкаванню 50-годдзя прыняцця Дэкларацыі.

**БЕЛТА.**

## *Толькі факт*

**Уклады насельніцтва** ў краіне ў камерцыйных банках на 1 красавіка 1998 года дасягнулі 13,6 трыльёна рублёў і выраслі ў параўнанні з 1 студзеня гэтага года на 10,9 працэнта.

У 2000 і 2001 гадах **Сусветная арганізацыя аховы здароўя** мае намер значна павялічыць расходы на фінансаванне праектаў у краінах Афрыкі і Усходняй Еўропы. Сваё рашэнне арганізацыя тлумачыць рэзкім пагаршэннем эканамічнага і сацыяльнага становішча ў абодвух рэгіёнах.

## БАРЫСАЎСКІ «ТРОХКУТНІК»?

У пятніцу, у 13.20 на перагоне Слаўнае — Талачын (аршанскі напрамак) адбыўся сход 9 вагонаў з вугалем таварнага саставу. Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў прэс-цэнтры ўпраўлення Беларускай чыгункі, здарэнне асабліва не паўплывала на графік руху цягнікоў, але для ліквідацыі наступстваў спатрэбіліся значныя сілы. На шчасце, абышлося без чалавечых ахвяр.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## ЛЯ «МАКС-ШОУ» СТРАЛЯЛІ...

Знакамітую сталічную дыскатэку «Макс-шоу», што праходзіць у кінатэатры «Кастрычнік», да гэтага ж часу абміналі надзвычайныя здарэнні. Аднак у гэтыя выхадныя адбыўся выпадак, які крыху можа астудзіць гарачыя галовы аматараў танцаў: каля пяці гадзін раніцы там пачулася некалькі пісталетных стрэлаў.

Як удалося высветліць у прэс-цэнтры УУС Мінгарвыканкама, падрабязнасці гэтай справы трымаюцца следствам у тайне. Аднак, як паведамілі там жа, у выніку інцыдэнту ёсць пацярпелыя. У 9-ю клінічную бальніцу з месца здарэння дастаўлены ахоўнік дыскатэкі з агнястрэльным раненнем. Другі чалавек, які таксама быў паранены з пісталета, знаходзіцца зараз у бальніцы хуткай дапамогі.

**Ігар ГРЫШЫН.**

## У МІНСКУ АБЯСШКОДЖАНА ПРОЦІТАНКАВАЯ МІНА

У ноч на нядзелю пры аварыйных земляных работах па ліквідацыі няспраўнасці на водаправодзе ў Мінску на вуліцы Герасіменкі была выяўлена процітанкавая міна часоў Вялікай Айчыннай вайны.

Знойдзеная міна была абясшкоджана піратэхнічнай службай спецыяльнага падраздзялення «Алмаз» МУС Беларусі.

Іншым здарэннем на тэрыторыі рэспублікі стаў пажар 25-тоннага рэзервуара з бензінам у вёсцы Налібокі, прычынай якога стаў удар шаравой маланкі. Сіламі мясцовай пажарнай службы пажар быў ліквідаваны на працягу гадзіны.

**ІНТЭРФАКС.**

## БЕДНАСЦЬ У ЗАКОНЕ,

### або Ці стане пражытачны мінімум «мінай замаруджанага дзеяння»?

**Канцэпцыя пражытачнага мінімуму пачала распрацоўвацца яшчэ летась. Хутчэй за ўсё, ужо ў чэрвені ў першым чытанні парламентарыі змогуць прыняць адпаведны закон. Аднак ці акажацца на самай справе пражытачны мінімум, як тое сцвярджаюць яго распрацоўшчыкі з Міністэрства працы, толькі «чыста тэхнічнай зменай нарматыву, які вызначае ўзровень жыцця насельніцтва»? Калі шчыра, пэўныя сумненні ў дадзеным выпадку ўсё ж узнікаюць.**

Колькі слоў аб сутнасці плануемага навaўвядзення. Як вядома, для вызначэння ўзроўню жыцця грамадзян нашай краіны традыцыйна выкарыстоўваецца паняцце так званага «мінімальнага спажывецкага бюджэту» ці, кажучы інакш, — «спажывецкай карзінкі» асноўных тавараў і паслуг, неабходных для дастатковага спажывання чалавекам кожны месяц. МСБ пераразлічваецца штоквартальна, прычым выніку гэтых разлікаў павінны непасрэдна ўплываць на памер мінімальнай зарплаты, той, у сваю чаргу, — на заробкі, пенсіі, стыпендыі, дапамогі. Схема, здавалася б, няхітрая. Аднак апошнія падзеі ўнеслі ў гэты парадак пэўныя карэктывы. Іх прычыны вядомыя. Зніжэнне аб'ёмаў і эфектыўнасці вытворчасці адначасова з высокімі тэмпамі інфляцыі з пачатку 90-х гадоў прыводзіць да рэзкага зніжэння заробкаў насельніцтва. З 1992 года суадносіны МСБ і мінімальнай зарплаты зменшаюцца з 53,8 да 10,5 працэнта, а сярэдняя зарплата двух чалавек дазваляе ім забяспечыць хіба што самых сябе і 0,5 утрыманца. Словам, у сувязі з рэальнай эканамічнай сітуацыяй з'яўляецца даволі лагічная ідэя: спачатку вызначыць навукова абгрунтаваную «рысу беднасці» (або той жа пражытачны мінімум), а потым паступова прадастаўляць грамадзянам, чые даходы знаходзяцца за гэтай рысай, права атрымліваць дзяржаўную сацыяльную дапамогу.

У прынцыпе, падобны падыход не новы, такім шляхам ідзе большасць краін свету. Не здрозніваецца ад сусветнай практыкі як сама сістэма ўліку пражытачнага мінімуму (60 працэнтаў ад МСБ), так і атрыманы вынік (у адзін дзень — адзін долар ЗША на чалавека). Бяда ў іншым: паказчык пражытачнага мінімуму прапануецца выкарыстоўваць не толькі для ацэнкі маштабаў беднасці і прагнозаў сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі, але таксама для... вызначэння памераў аплаты працы, пенсій, стыпендый, дапамог. Такім чынам, мінімальны спажывецкі бюджэт і пражытачны мінімум фармальна становяцца роўнымі.

Між тым, для інфармацыі. Зараз вартасць «сярэдняга» мінімальнага спажывецкага бюджэту ў краіне складае 2 млн. 684,6 тыс. рублёў, вартасць неафіцыйна вызначанага пражытачнага мінімуму — 1 млн. 610,7 тыс. Розніца, асабліва для маламаёмных грамадзян, даволі адчувальная.

**Сяргей ГРЫБ.**

## МЕНШ ПАРТЫЙ БЯЗДЗЕЮЧЫХ, БОЛЬШ АКТЫЎНЫХ

**Міністэрства юстыцыі Беларусі зноў падало ў Вярхоўны суд дакументы на ліквідацыю некаторых палітычных арганізацый. Як вядома, сёлета вышэйшая судовая інстанцыя краіны, згодна з хадайніцтвам Мінюста, ужо вынесла «смяротны» вердыкт у адносінах да шасці партый. Тады з дзяржаўнага рэестра былі выкраслены Народная партыя «Адраджэнне», Партыя «Ачышчэнне», Партыя ўсебеларускага адзінства і згоды, Беларускі навукова-вытворчы кангрэс, Партыя аматараў піва і Беларуская аб'яднаная спартыўная партыя.**

Цяпер небяспека ліквідацыі навісла яшчэ над трыма арганізацыямі: Беларускай нацыянальнай партыяй (старшыня Анатоль Астапенка), Беларускай сацыяльна-спартыўнай партыяй (старшыня Уладзімір Александровіч) і партыяй «За сацыяльную справядлівасць» (старшыня Ігар Клюеў). З чэрвеня ў судзе адбудуцца першыя слуханні, на якіх будзе вырашацца далейшы лёс пералічаных арганізацый.

Кожная мае сваю гісторыю, аднак аб'ядноўвае іх тое, што на палітычнай сцэне ніводная нічым сябе так і не праявіла і нават не запомнілася шырокай грамадскасці. Гэтыя тры партыі, як і некаторыя іншыя, былі вядомыя хіба толькі палітолагам, якія прафесійна займаліся аналізам іх дзейнасці. Хаця па вялікаму рахунку і аналізаваць не было чаго. У гэтым і прычыны цалкам апраўданых дзеянняў Міністэрства юстыцыі, якое спасылаецца на адсутнасць дастатковай колькасці рэгіянальных прадстаўніцтваў партый, што з'яўляецца парушэннем закона, і на ігнараванне запытаў міністэрства кіраўніцтвам арганізацый.

Самай сталай можна назваць БНП. Яна ўтварылася ў красавіку 1994 года шляхам расколу Беларускай нацыянальна-дэмакратычнай партыі. Сацыяльна-спартыўная партыя таксама перажыла ў сваёй гісторыі раскол. У сярэдзіне 90-х з адной спартыўнай партыі былі ўтвораны дзве. Другая называла сябе Беларускай аб'яднанай спартыўнай, а ўзначальваў яе прэзідэнт федэрацыі бокса Ігар Ражнюк (БАСП была ліквідавана яшчэ ў пачатку вясны). Адзінае значнае дасягненне БССП заключаецца ў тым, што яе лідэр, прэзідэнт федэрацыі кікбоксінгу Уладзімір Александровіч на парламенцкіх выбарах стаў дэпутатам Вярхоўнага Савета XIII склікання, а потым перайшоў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу.

Партыя «За сацыяльную справядлівасць» мае самую кароткую гісторыю з названай тройкі. Яна была створана ў мінулым годзе, а пасаду лідэра заняў Ігар Клюеў, старшыня аднайменнай грамадскай арганізацыі, якая аб'ядноўвала ў сваіх шэрагах так званых пацярпелых ўкладчыкаў. Ужо тады было відавочна, што партыя стваралася пад адну канкрэтную асобу і з'яўляецца не чым іншым, як мёртванароджаным дзіцем, што і было доказана часам. Арганізацыя не толькі не змагла заявіць аб сабе належным чынам, партыя нават як след не аформілася, паколькі не здолела зарэгістраваць свае структуры ў большасці абласцей краіны, як таго патрабуе Закон аб партыях. Вось такое шэрае і незаўважнае існаванне стала характэрнай рысай усіх трох партый.

Як стала вядома «Звяздзе», на гэтым Мінюст не збіраецца спыняцца. За другой хваляй нахвання «палітычных трупаў» будзе трэцяя. І ўжо нават вядомы адзін з кандыдатаў на «вылет» з дзяржаўнага рэестра. Размова ідзе пра Беларускую экалагічную партыю (БЭП). Кіраўніцтва гэтай арганізацыі, якое ўласнымі намаганнямі вырашыла нейкім чынам змяніць сваё існаванне, заявіла аб магчымым зліцці з партыяй «Зялёны свет» і Беларускай партыяй зялёных, і папрасіла два месяцы на роздум і афармленне патрэбных дакументаў. Але два месяцы прайшлі, а воз, як кажуць, і дагэтуль там. Такім чынам, Міністэрства юстыцыі прыняло рашэнне разабрацца і з «экалагамі». Дакументы па БЭП будуць накіраваны ў Вярхоўны суд 1 чэрвеня.

Але не ўсё так сумна і аднастайна ў партыйным жыцці. Яно працягваецца, таму ў той час як адны партыі паміраюць, іншыя нараджаюцца. Ці, дакладней, адраджаюцца, бо менавіта такім словам можна ахарактарызаваць тое, што адбылося з Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамадой (БСДГ). 29 мая Станіслаў Шушкевіч, як старшыня новай арганізацыі, атрымаў пасведчанне аб рэгістрацыі БСДГ. Такім чынам, сацыял-дэмакратычная Грамада ў чарговы раз атрымала пуцёўку ў жыццё.

Ужо сёння можна прадказваць, што новай арганізацыі прыйдзецца нялёгка ў справе заваявання свайго месца пад сонцам. Справа ў тым, што ў краіне ўжо і без гэтага існуюць дзве палітычныя арганізацыі сацыял-дэмакратычнага накірунку: Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя «Народная грамада» (старшыня Мікола Статкевіч) і Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя народнай згоды (старшыня Леанід Сечка).

Увогуле сацыял-дэмакраты за некалькі апошніх гадоў расклалі такі пасьянс, што двума сказамі і не апішаш. Прывабнае імя ды роля эсдэкаў у Еўропе, якая павышаецца з кожным годам, сталі прычынай таго, што ў сацыял-дэмакраты пачалі запісвацца як сапраўдныя прыхільнікі гэтай ідэі, так і тыя, хто жадаў пагрэць рукі і атрымаць ад такога «супрацоўніцтва» як мага больш палітычных дывідэндаў. Таму навейшая беларуская сацыял-дэмакратыя мае такую складаную гісторыю, якой не можа пахваліцца ніводная іншая айчынная партыя.

Заснаванне БСДГ у пачатку 90-х пад кіраўніцтвам Міхаіла Ткачова падавалася як адрадженне ідэй Беларускай сацыялістычнай грамады і Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. (Абедзве існавалі ў пачатку стагоддзя і былі па сутнасці першымі сапраўды беларускімі палітычнымі партыямі.) Пасля смерці М. Ткачова БСДГ узначаліў Алег Трусаў, але новы лідэр не змог дабіцца такога ж аўтарытэту, як яго папярэднік, таму ў 1995 годзе ў арганізацыі адбываецца раскол. Новым старшынёй стаў Мікола Статкевіч, пад кіраўніцтвам якога БСДГ неўзабаве аб'ядналася з Партыяй народнай згоды. Нязгодная частка ПНС хутка стварыла Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю народнай згоды, а нязгодная частка сяброў БСДГ толькі зараз дабілася афіцыйнага статусу сваёй арганізацыі.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## *Хроніка апошніх падзей*

● **Прэм'ер-міністр Пакістана Наваз Шарыф** заявіў аб гатоўнасці пачаць перагаворы з індыйскімі ўладамі аб узаемнай адмове ад ядзерных выпрабаванняў. Шарыф таксама паведаміў, што Пакістан не мае намеру ў бліжэйшы час праводзіць новыя выбухі і не будзе прымяняць ядзернай зброі. Раней міністр замежных спраў Пакістана Аюб Хан заявіў аб намеры Індыі правесці новыя ядзерныя выпрабаванні ў першай палове ліпеня. Індыя катэгарычна адхіліла гэтыя сцвярджэнні. Індыйскі прэм'ер Важдпаі заявіў, што Дэлі будзе прытрымлівацца мараторыя на ядзерныя выпрабаванні.

● **Кіраўніцтва французскай авіякампаніі «Эйр Франс»** не змагло дасягнуць пагаднення з пілотамі адносна змянення ўмоў аплаты працы. Лётчыкі сення пачалі забастоўку. Акцыі пратэсту могуць прадоўжыцца 2 тыдні. Кіраўніцтва «Эйр Франс» — афіцыйнага перавозчыка чэмпіянату свету па футболу — плануе адмяніць да 90 працэнтаў авіярэйсаў. Футбольнае першынство пачнецца ў Парыжы 10 чэрвеня, і забастоўка лётчыкаў пагражае парушыць планы многіх балельшчыкаў наведаць гульні чэмпіянату.

● **Хворым на СНІД** не трэба спыняць рабіць зарадку і ўстрымлівацца ад іншых відаў фізічнай актыўнасці. Раней урачы апасаліся, што практыкаванні могуць прывесці да празмернай стымуляцыі імуннай сістэмы, якая ўзмацняе распаўсюджванне віруса імунадэфіцыту. Даследы фізіёлагаў універсітэта Тафтса ў Бостане паказалі, што нават значныя нагрузкі не выклікаюць у хворых павышэння канцэнтрацыі віруса.

● **Магутны ўраган**, які абрушыўся на паўночны захад Злучаных Штатаў, каштаваў жыцця сама меней шасцярым жыхарам штата Паўднёвая Дакота. Гарадок Спенсер увогуле сцёрты з твару зямлі. Не засталося практычна ніводнага цэлага будынка. Звыш ста пяцідзесяці чалавек атрымалі раненні.

● **Звыш паўмільёна жыхароў краін Еўрапейскага Саюза штогод гінуць ад хвароб**, звязаных з курэннем. Дзевяноста працэнтаў злаякасных пухлін лёгкіх у мужчын узнікаюць з-за ужывання тытунёвых вырабаў.

***Паводле паведамленняў інфармацыйных агенцтваў.***

## *Інфарм-кактэйль*

Амерыканцы вельмі клапоцяцца аб сваім здароўі. Яны часта наведваюць урачоў. А тыя выпісваюць ім шмат лекаў. Але гэта не заўсёды ідзе на карысць тым, хто жадае ўмацаваць сваё здароўе. Часопіс Амерыканскай медыцынскай асацыяцыі апублікаваў несуцяшальныя вынікі праведзенага даследавання. З яго вынікае, што штогод больш як два мільёны амерыканцаў адчуваюць на сабе цяжкія наступствы пабочных лекавых прэпаратаў. Больш як 100 тысяч проста гінуць па гэтай прычыне. Ці заўсёды ведаюць урачы аб уласцівасцях лекаў, якія выпісваюць хворым? Хворыя ж часта даведваюцца аб гэтых уласцівасцях вельмі позна.

**ІТАР-ТАСС**

*«Прастытуцыя — гэта не злачынства», — сцвярджаў італьянскі бізнесмен, калі яго затрымалі ў ходзе паліцэйскай аперацыі па барацьбе з прастытуцыяй і рэкетам у Рыме. Высветлілася, што за два гады аматар «начных матылькоў» патрaціў на іх 600 тысяч долараў. На яго патрэбу працавала цэлая каманда з шасці чалавек, якая выконвала ўсе сексзаказы прадпрымальніка.*

**ІТАР-ТАСС**



Некалькі соцень прадстаўнікоў народнасці пелубанг, што ў Малайзіі, у мінулую суботу адрадзілі старажытную традыцыю, якую паважалі іх продкі. Сутнасць яе заключаецца ў перанясенні на плячах жылой хаты на адлегласць больш чым на кіламетр. Гэтая аперацыя, момант якой вы бачыце на фотаздымку, заняла 30 хвілін.

**Не папракай мяне, шаноўны чытач, што буду зноў пісаць пра каханне. Ды яшчэ так, як збіраюся гэта зрабіць, — нібы нічога больш важнага за яго ў жыцці маёй гераіні і не было. А жанчыне ўжо за семдзесят, і праўнук ужо, глядзі, — праз некалькі гадоў нявесту ў хату прывядзе... Што тут ужо пра каханне гаварыць? Але на ім, незабыўным, нерастрачаным, яна, мусіць, усё жыццё і трымалася...**

# Чаканне даўжынёю ў жыццё

*Я так моцна любіла яго,*
*Што не плакала.*
*Ах, ты, доля ліхая,*
*Адна на дваіх, — вайна...*

**Т. Сапач**, «Салдатка».

Сяджу ва ўтульным пакоі Ніны Іванаўны, п'ю духмяную гарбату, слухаю. І — не спускаю вачэй з твара гэтай жанчыны. А на ім — то маладая шчаслівая ўсмешка і гарэзлівы агеньчык у вачах, то горкая складка ля вуснаў... Так бывае толькі з людзьмі, якія ў маладосці вельмі шчаслівыя былі, а пасля нешта гэта шчасце парушыла. Нібы сніўся чалавеку прыгожы сон, а потым яго груба расштурхалі, не даўшы дагледзець. І не верыцца яму, што скончылася тая дзіўная казка назаўсёды, і засынае ён кожную ноч з непазбыўнай надзеяй, што сон той аднойчы вернецца, паўторыцца, дагледзіцца...

Яны пазнаёміліся летам 39-га. На вуліцах старога Мінска красавалі акацыі, з танцпляцовак гучала мелодыя «Дунайскіх хваляў», пад якую хацелася закружыцца ў шалёным вальсе, каб стракацела ўсё навокал, і толькі блізкія вочы насупраць, і дужая рука на стане... Гэта было яе першае лета, першыя танцы. Наперадзе быў яшчэ год вучобы ў школе, а потым... Потым, здавалася, неабсяжны далягляд наперадзе. І іскрыліся шчасцем вочы, і марылася пра штосьці незвычайнае... І неяк неўзаважна побач аказаўся малады пагранічнік, з якім патанцавала аднойчы і які цяпер не зводзіў з яе заварожаных вачэй...

Як моцна ёй не хапае Сцяпана, як многа ён для яе значыць, яна здагадалася пазней, калі ў яго скончыўся водпуск і давялося вярнуцца на граніцу.

Ах, як яна сумавала! Здалося, знікла ў жыцці самае важнае, і з'явіўся казытлівы страх: а раптам забудзе? Потым ціхі смутак змяніўся трывогай: часць, у якой служыў Сцяпан, уступіла на тэрыторыю Заходняй Беларусі. Нейкі час ад яго ніякіх звестак. І былі дзявочыя адчайныя слёзы, і разам з імі прыйшло адкрыццё: жыць не побач з гэтым чалавекам яна наўрад ці зможа...

Таму, калі ў канцы верасня 39-га ён прыехаў да яе, жывы, здаровы, з адмысловым падарункам — маленькім наручным гадзіннікам, і прапанаваў распісацца і паехаць з ім на новую мяжу, яна згадзілася. Кінула ўсё — дзесяты клас, забяспечанае жыццё ў сталіцы, перспектыву пайсці ў інстытут... Не спыніла нават тое, што нявесце не было васемнаццаці — упрасілі даволі высокапастаўленага сваяка, каб дапамог уладзіць праблему ў ЗАГСе. Праз колькі дзён яны ўжо імчалі на яго месца службы, у невялікае мястэчка пад Беластокам. Там маладым выдзелілі асобны пакойчык у драўляным доме. Есці яна гатавала на прымусе. Вечарамі, калі мужа яшчэ не было дома, яна наглуха закрывала аканіцы, са страхам заглядала пад ложак, пад шафу — баялася шпіёнаў, якіх шмат было на памежжы. Ёй было семнаццаць гадоў, яна расла пад крылцам у мамы ва ўтульнай кватэры з усімі выгодамі... Можна толькі ўяўляць, як цяжка было перастроіцца, прывыкнуць... Але побач заўсёды быў ён, каханы чалавек. І нічога больш не трэба было — абы ён штовечар вяртаўся дадому, абы ўсміхаўся, з зайздросным апетытам з'ядаючы яшчэ не зусім умела згатаваную ёй вячэру, абы засынаць на яго цёплым плячы, а прачнуўшыся, бачыць яго зялёныя ласкавыя вочы... Абы гэта ніколі не скончылася...

Калі на свет з'явілася іх дачушка — шчасце было бязмежнае. Ніна вельмі любіла выхадныя, калі можна было апрануць на Томачку белую аксамітную сукенку і са Сцяпанам пад руку павольна прайсціся па мястэчку. Прахожыя звярталі ўвагу на іх — статны афіцэр у форме, прыгожая, як лялька, маленькая дзяўчынка ў яго на руках, маладзенькая жонка побач. Пра дачку людзі казалі: «Якая харошанькая дзяўчынка!» А Сцяпан нязменна, з пяшчотай гледзячы на жонку, адказваў: «Яна ў нас — вылітая мама».

У чэрвені сорак першага яны былі ў летнім лагеры пад Гроднам. І пра вайну даведаліся не па радыё: на досвітку пра яе сказалі стрэлы і выбухі. Сцяпан тут жа апрануўся і пабег у часць. Яна ўбачыла яго яшчэ раз толькі днём, калі бомбы і гул самалётаў ператварылі свет у пекла. Падсадзіў яе на грузавік, коратка сказаў: «Гэта ненадоўга. Беражы сябе і дачку», і знік у клубах пылу і парахавога дыму...

Дабраўшыся да Мінска, яна не затрымалася там доўга. Пакінула Сцяпану запіску на стале: маўляў, я нікуды не з'ехала, засталася тут. (Яна ўсё ж верыла, што муж з таго пекла неяк вырвецца і будзе яе шукаць.) Потым разам з маці і сястрой рушыла на ўсход, спадзеючыся дагнаць фронт і застацца на савецкім баку. Дайшлі толькі да Барысава, потым перабраліся ў Халопеніцкі раён. Там у невялікай вёсцы жылі ў былой калгаснай канцылярыі — тры сям'і ў адным пакоі. Жылі ў вечным страху: у вёсцы ўсе, і сябры, і нядобразычліўцы, ведалі, што яна — жонка савецкага афіцэра. Таму, калі ў канцы сорак трэцяга ў вёсцы з'явіліся партызаны, яны не задумваючыся пайшлі ў атрад.

Там, у лесе, да яе падышоў малады разведчык і без доўгіх прадмоў сказаў: давай жыць разам. Узамен ён прапаноўваў па тых часах многа: бяспеку і харч для малой. Але як яна магла згадзіцца? Нават дзеля сытасці дачкі. Адмоўна паківала галавой, моўчкі, бо словамі тое, што адчувала, не выкажаш. Больш яна таго выпадковага знаёмага не бачыла...

А потым пачалася блакада. Немцы іх акружылі каля возера Палік. Выбіраліся невялікімі групамі. Ніну з дзіцем ніхто не хацеў браць. Некаторыя нават прапаноўвалі: утапі малую і хадзем з намі — баяліся, што заплача дзяўчынка, выдасць усіх... Нарэшце камандзір адной групы згадзіўся ўзяць іх з сабой, але пры ўмове, што з дзіцем будуць ісці самыя апошнія... Таму неслі на руках па чарзе, і, калі пераходзілі праз нямецкае ачапленне, яна была на руках у бабулі. Ніна выйшла з блакады адна, і ўжо не спадзявалася, што маці і дачка жывыя. Той тыдзень быў самым страшным у жыцці. Кожную секунду ў скронях стукала: «Не зберагла дачку. Як гляну яму ў вочы?» І колькі радасці было, калі праз сем дзён аплаканыя ўжо родныя нечакана з'явіліся. Аказалася, трапілі да немцаў і толькі дзякуючы імкліваму наступленню нашых засталіся жывымі...

Як толькі дайшла да разбуранага, спаленага Мінска — кінулася да ваеннага начальства: можа, ёсць якія звесткі пра Сцяпана? Адказ быў несуцяшальны: з другога дня вайны муж лічыўся без вестак прапаўшым. А ёй гэтыя словы прынеслі палёгку і надзею: значыць, не загінуў, можа, у палоне, можа, у партызанах...

Дзень Перамогі сустракала з радасцю і надзеяй. Бяссоннымі начамі ўтрапёна прыслухоўвалася: вось зараз пастукаецца ў дзверы, з'явіцца на парозе, знясілены, можа, пакалечаны, але свой, родны, жывы. І яна моцна-моцна абдыме яго і нікуды больш не адпусціць. А Томка зноў будзе вучыцца вымаўляць слова «тата» і прывыкаць да чужога дзядзькі, якога і не помніць зусім...

Яна чакала год, чакала два. Надзея ўжо пачала паціху затухаць, калі раптам прыйшло пісьмо з-пад Уфы, ад Сцяпанавай маці. Жанчына пісала, што вярнуўся дадому чалавек, які быў са Сцяпанам у адным лагеры для ваеннапалонных і расказаў, што Сцяпан з таго лагера ўцёк. Зноў з'явілася надзея, зноў былі бяссонныя ночы, зноў чакала, сухімі гарачымі вачыма гледзячы ў цемру... Але міналі ночы, дні, месяцы... І ўпарты розум сцвярджаў: ён ужо не вернецца...

Яна была маладая і прыгожая. Мужчыны, калі яна ішла па вуліцы, глядзелі ёй услед. А адзін з іх, Віктар, малады вайсковец, проста закідваў яе вершамі і даўжэзнымі пісьмамі з прызнаннямі ў каханні. Так працягвалася тры гады. Яна ўжо і згадзілася была выйсці за яго. Дый родныя казалі: хопіць чакаць, няма твайго Сцяпана ў жывых, а ты маладая, і дачку трэба на ногі падымаць. Яна і сама разумела, што хоць і без яго, але трэба жыць далей. Думала: з часам прытупяцца ўспаміны... І калі ўжо была гатовая на адчайны крок, сустрэла раптам на вуліцы чалавека, які ўсміхаўся Сцяпанавай усмешкай. Зразумела: ніхто яго не замяніць, і... парвала з Віктарам.

Так і жыла адна. І ўвесь час дзесьці ў самым патаемным куточку душы цеплілася, жыла надзея: а раптам... Толькі яна не давала гэтай надзеі сабой завалодаць — трэба было жыць далей. Расслабіцца і забыцца не давалі і вочы Тамары — вялікія, зялёныя, якраз як у яе Сцяпана...

Унучка ўжо скончыла школу, калі аднойчы пазваніў Віктар. Сказаў, што памерла жонка, што застаўся адзін. І раптам прапанаваў: «Не выйшла тады — давай цяпер паспрабуем...» Яна згадзілася, бо ў пустую кватэру часта заходзіла адзінота, ад якой не маглі ўратаваць нават успаміны.. Жылі разам два немаладыя ўжо чалавекі больш за дзесяць гадоў.

Некалькі гадоў таму яна свайго Віктара пахавала. Цяпер, ездзячы на яго магілу, кожны раз успомніць таго, першага, ля чыёй магілы, што невядома дзе і ці ёсць наогул, не давялося пабыць ні ёй, ні дачцэ, ні ўнучцы, ні праўнуку...

... А ноччу часта сніцца малады статны вайсковец з прыгожанькай, бы лялька, дзяўчынкай на руках. І тады прачынаецца яна раніцай і ўвесь дзень жыве надзеяй, што сон той вернецца, паўторыцца, дагледзіцца...

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

# І будзе праўда жыць у закрэсленых радках

ТОЕ, што гэта выстаўка адкрылася ў адной з залаў Мінскай абласной бібліятэкі, — падзея для двухмільённага горада амаль непрыкметная. Проста ў чарговы раз сабраліся аматары калекцыяніравання і зрабілі чарговую экспазіцыю: адзін прынёс старыя грампласцінкі, другі — значкі і маркі, трэці — статуэткі...

Наведвальнікі, прызвычаеныя да такіх выставак, нудліва пераходзілі ад аднаго стэнда да другога і раптам спыняліся, ашаломленыя невялічкімі пажоўклымі аркушамі пад шклом вітрыны, дзе ляжалі пабачыўшыя полымя і сцюжу, смерць і доўгія паходы, урэшце, радасць Перамогі пісьмы з Вялікай Айчыннай вайны.

Мы завём яе «апошняй вайной», хаця на самай справе колькі іх яшчэ было потым — невядомых, засакрэчаных, неабвешчаных. Колькі мільёнаў такіх пісем прынеслі паштальёны каму на гора, каму на доўгачаканую радасць.

Кожная вайна — ці вялікая — за ўсю нашу Айчыну, ці нестратэгічнага памеру — за свой дом, хутар, вёсачку акрамя болю і смерці ўзрошчвае вакол сябе яшчэ і атрутную ману. На вайне побач з праўдаю заўжды існаваў падман і заставаўся яшчэ адным відам зброі і для наступаючых і для абаронцаў.

Я чытаў няроўныя, таропкія радкі салдацкіх пісем пачатку вайны і адчуваў, як спее пытанне да тых, хто ўжо ніколі яго не пачуе, не адкажа. Чаму? Чаму лісты былі не пра тое, што сёння агульнавядома: не пра батальёны, цалкам знішчаныя нямецкімі танкамі, не пра горкае адступленне, не пра раптоўна страчаную магутнасць арміі?

Відаць, таму, што, нібы камертонам вопытнага настройшчыка, тон франтавому пісьму задаваўся першымі радкамі, надрукаванымі прыгожымі літарамі на аркушах для салдацкіх пісем. «Мае родныя. Мы, байцы Чырвонай Арміі, вырашылі: новы 1942 год будзе апошнім для нямецкай арміі...»

Такая спецыяльная папера для пісем, відаць, рыхтавалася па загаду тых, хто імкнуўся схаваць праўду пра адступленне і страты.

Хаваць праўду дапамагала і ваенная цэнзура. Уважлівае вывучэнне распячатаных канвертаў завяршалася або дазволам на перасылку пісьма, аб чым сведчыць вялікі штамп, або... у гэтым выпадку варыянтаў было шмат і кожны з іх быў не лепшым за астатнія.

На салдацкіх пісьмах не было паштовых марак — дзяржава пакідала за сабой пакрыццё ўсіх расходаў, як і права адсочваць колькасць праўды ў саміх пісьмах.

Прадбачу, што нехта, прачытаўшы гэтую замалёўку з выстаўкі, адкажа мне: «А што ж вы хацелі, каб салдацкія пісьмы разносілі ваенныя тайны і распаўсюджвалі вакол паніку? Такі быў час!»

Так, час быў такі. Я гэта ўсё для таго, каб зацікавіць чытача самому прыйсці на выстаўку, самому пачытаць салдацкія пісьмы і самому падумаць над пажоўклымі сведкамі мінулага.

З мінулага ніколі не позна рабіць высновы.

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

НА ЗДЫМКАХ: частка выстаўленай калекцыі пісьмаў і яе збіральнік мінчанін **Аляксандр АРЛОЎ.** Вялікую Айчынную ён ведае не па кнігах — у тыя гады загінулі яго бацька і маці.

# Старонка Паўла Глобы

## 3 чэрвеня, СЕРАДА

**РЭКАМЕНДАЦЫІ.** Проціпаказаны фінансавыя аперацыі. Пазбягайце канфліктаў. Дзень, спрыяльны для рамонту ці будаўніцтва дома, але нельга падымаць цяжкасці іператамляцца. Абавязкова зрабіце вільготную ўборку ў доме. Удзяліце ўвагу жывёлам, птушкам. Вечар добра правесці ў асяроддзі сям'і, можна займацца любімай справай, успамінаць сваіх продкаў, разглядаць іх фатаграфіі. Цудоўны час для лазні, сауны, стрыжкі валасоў і пазногцяў. Не варта злоўжываць алкаголем.

**МЕДЫЦЫНА**. Слабы кішэчнік, ныркі, падстраўнікавая залоза, эндакрынная і мочавыводная сістэмы. Паказаны лячэнне бронхаў, лёгкіх, касметычныя працэдуры для твару.

**Падрыхтавана да друку спецыяльна для «Звязды» астралагічным цэнтрам «АРБА».**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 4.43 | 21.31 | 16.48 |
| Віцебск – | 4.26 | 21.29 | 17.03 |
| Магілёў – | 4.33 | 21.20 | 16.47 |
| Гомель – | 4.38 | 21.10 | 16.32 |
| Гродна – | 4.59 | 21.46 | 16.47 |
| Брэст – | 5.10 | 21.37 | 16.27 |

### МЕСЯЦ

**Першая квадра 2 чэрвеня**

***З 12.15 – 9-ыя месяцавыя суткі. Месяц – у сузор'і Дзевы.***

### ІМЯНІНЫ

**ПР. Аляксія, Даўмонта**

**К. Марцэліны, Пятра, Садока**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, на большай частцы тэрыторыі кароткачасовыя дажджы, месцамі навальніцы. Тэмпература паветра ў Гродне 21—23, Брэсце, Мінску — 22—24, Віцебску, Магілёве — 24—26, Гомелі — 25—27 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак пераменная воблачнасць. 3 чэрвеня ўначы — на паўднёвым усходзе, удзень — у заходніх раёнах, а 4-га — на большай частцы тэрыторыі дажджы, месцамі навальніцы. Тэмпература 3-га ўначы — 9—14, 4-га — 12—17, удзень — 23—28, па паўночнаму захаду — 18—23 градусы вышэй нуля.

# КІРМАШ

ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 21 (139)



НПП "ФЕЛИЗ"

ПРОВЕРЕНО ВРЕМЕНЕМ

(генеральная лицензия №13 от 12.07.94г.)

официальный дилер АО УАЗ

АВТОМОБИЛИ

УАЗ ГАЗ

100% комплектация и доукомплектация

ВАЗ ПАЗ

Гарантийное обслуживание.

Т. (017) 239-30-27 т./ф.232-53-23

Услуги посредников оплачиваются



Предлагаем

ХОЛОДИЛЬНОЕ ОБОРУДОВАНИЕ И ЗАПЧАСТИ:

холодильные камеры, агрегаты, з/части к ФАК и ИФ, ТВВ (Тарту) РТХО, ТАМ-113, РВТ-8/12/24, микродвигатели, кран сливной для молочной ванны РПО-2,5, реле давления и др.

Тел./факс (017) 239-73-81.


**Даведкі аб размяшчэнні рэкламы ў «ЗВЯЗДЗЕ»**

**Тэл. 232-31-98**

**Кошт прыватных аб'яў і віншаванняў для тых, хто не мае купона, — 60 тыс. руб.**

**Аплата на р/р 3012210270016 у КБ «Белбізнесбанк» у г. Мінску код 739.**

**Выпускнікі-78 Ульскай школы!**

**Запрашаем на сустрэчу 4 ліпеня г.г. у 16 гадзін (старая школа).**

**Тэл. для даведак у Чашніках: (8-02133) 2-16-42, Галіна.**

Прадаю зруб 8х10 2-павярховы, арыгінальнай канструкцыі з аконнымі і дзвярнымі блокамі.
Тэл. у Стоўбцах 4-74-92.

## ПРАДАЕЦЦА

- Аконныя блокі (6 шт., памер 1,2х1,5 м), танна.
*Тэл. у Смалявічах 6-37-25.*
- матацыкл «Днепр-11», у дадатак новы рухавік і з/ч.
*Тэл. (8-218) 4-13-97, увечары, Алег.*
- дача драўляная з мансардай, пад ёй гараж 6х6 на беразе Нёмана ў Мастоўскім раёне.
*Тэл. (8-215) 2-35-97.*
- эл. ударныя «Фарманта УДС-11», танна, або мяняю на мікшарскі пульт (б/к).
*Тэл. у Нясвіжы (8-270) 5-56-50-0, Саша.*
- катэдж 2-павярховы, 103 кв. м, з г/пабудовамі, гараж, побач бальніца, возера.
*Тэл. у Пастаўскім раёне 3-92-76, пасля 21.*
- бензапіла шведская.
*Тэл. у Мінску (8-22) 57-06-88.*
- матацыкл «Урал» 1990 г. в., у выдатным стане — 250 у. а.
*Тэл. (8-218) 5-21-79.*
- «ВАЗ-2101» у Бярэзінскім раёне, 1979 г. в., танна.
Тэл. 5-73-43, пасля 21.
- матацыкл «МТ-10» у добрым стане. Цана па дамоўленасці.
*Тэл. у Смаргоні 5-19-58.*
- дом з г/пабудовамі, участак 20 сотак у в. Апенькі Вілейскага раёна.
*Тэл. (8-297) 5-12-26.*
- «Форд-Гранада» 1980 г. в., растаможаны, у добрым стане, цана па дамоўленасці.
*Тэл. у Капылі 5-04-66, пасля 17.00.*
- матацыкл «Днепр-10», пярэднія крылы да «УАЗ», тэнт; прадаю або мяняю ручныя нажніцы для рэзкі металу да 5 мм (механічныя) на каробку скорасцей «Масквіча-412».
*Звяртацца: 223712, Мінская вобл., Салігорскі раён, в. Чыжэвічы, пас. Шахцёрскі, Цесавец В. Ц.*
- «Масквіч-21412» 1990 г. в., белы.
*Тэл. (8-017) 260-70-60.*
- «Масквіч-2140» 1983 г. в. у добрым стане 750 у. а., палова вагона пад дачу ці гараж.
*Тэл. у Асіповічах 2-20-90.*
- «ВАЗ-21011» 1981 г. в. у добрым стане.
*Тэл. у Мінску 246-67-00, пасля 19.00.*
- піяніна электроннае мнагагалосае «Электроніка ЕМ 17».
*Тэл. (8-02157) 2-43-74.*
- драўляны дом з г/пабудовамі ў Лагойску.
*Тэл.: (8-274) 5-95-01, 5-53-79.*
- дом пад дачу, побач возера Браслаўскае.
*Тэл. у Паставах 2-33-41.*
- дом з зямельным участкам у Стаўбцоўскім раёне в. Градкі, Пархімовіч Л. А.
- дом з выгодамі, г/пабудовамі, участак 30 сотак, у Карэліцкім раёне.
*Тэл. у Мінску 94-82-37, Генадзь Яўгенавіч.*

## Асабістае жыццё

**Аб. 719.** Пазнаёмлюся з жанчынай для стварэння сям'і. Аб сабе: па гараскопу Рыбы, 48 гадоў, жыхар сельскай мясцовасці Салігорскага раёна, быў жанаты, без ш/з, несудзімы. Згодзен на пераезд.

**Аб. 720.** Пазнаёмлюся з прыгожай мінчанкай да 30 гадоў для стварэння сям'і (дзеці не перашкода). Пажадана фота. Аб сабе: Анатоль 29/180/75, сімпатычны, добры мужчына. Астатняе пры знаёмстве.

**Аб. 721**. Адзінокі малады чалавек, 20/184/83, пазнаёміцца з дзяўчынай для стварэння сям'і. Адкажу ўсім, жыву ў горадзе.

**Аб. 722.** Пазнаёмлюся з дзяўчынай да 34 гадоў. Аб сабе: 32 гады, жыву адзін у сельскай мясцовасці Гродзенскай вобласці. Згодзен на пераезд.

**Аб. 723.** Маладая сімпатычная жанчына, 24/167/63, Рак, пазнаёміцца з самастойным маладым мужчынам без ш/з да 30 гадоў для сур'ёзных адносінаў. З месцаў пазбаўлення волі просьба не турбаваць. Жыву ў Гомельскай вобласці, на пераезд не згодная. Падрабязнасці пры перапісцы.

**Аб. 724.** Маладая жанчына, 25/165/50, Цялец, пазнаёміцца з самастойным мужчынам без ш/з да 32 гадоў для сур'ёзных адносінаў. Жылля не маю. Згодная на пераезд, з месцаў пазбаўлення волі не пісаць. Пажадана фота.

**Удачы, А. ДЗІВАК.**

## Віншаванні

***Вера Уладзіміраўна МОХАНЬ!***

Віншуем з 50-гадовым юбілеем.

*Улыбнись веселей — это ваш юбилей,*
*Мы целуем вас, обнимаем.*
*Много радостных дней*
*и спокойных ночей*
*Долгой жизни, здоровья желаем.*

**Калектыў работнікаў калгаса «Нёман» Лідскага раёна.**

*Дарагія нашы дзядуля **Іван Якаўлевіч** і бабуля **Яўгенія Вікенцьеўна ПЯТРОВІЧЫ** з в. Малая Дайноўка Валожынскага раёна, віншуем вас з залатым вяселлем. Жадаем моцнага здароўя і многіх гадоў сумеснага жыцця.*

**Унукі Юра і Ігар, г. Мінск.**

*Любую, дарагую мамачку і бабулю **Ніну Сцяпанаўну ЖЫЛЯВІЧ** сардэчна віншуем з днём нараджэння. Моцнага здароўя, шчасця, бадзёрасці табе, родная.*

**Дочкі Жанна і Марына і іх сем'і**, *г. Наваполацк.*

*Сардэчна віншуем з узростам Хрыста брата **Аляксандра Мікалаевіча НЕКРАША** з Узды. Няхай моцнае здароўе, шчасце, радасць і сямейны дабрабыт крочаць з табой па жыцці.*

***Брат Аляксей з сям'ёй**, г. Мінск.*

*Віншуем **Андрэя ВІНЕЛЯ** з г. Мінска з 20-годдзем. Жадаем моцнага здароўя, здзяйснення мараў, выканання задуманага, добрых сяброў, шчасця.*

***Родныя**, г. Стоўбцы.*

*Дарагую і любімую дачку **Ларысу ГАЛКОЎСКУЮ** з 20-годдзем з дня нараджэння (г. Магілёў). Жадаем шчасця, кахання, здароўя.*

***Бацькі.***

*Шчыра віншуем любую нявестку **Аліну Леанідаўну ДЗЕНІСЕНКА** з днём нараджэння (г. Барысаў). Жадаем здароўя, шчасця, поспехаў у жыцці.*

***Свёкар і свякроў** з в. Карані.*

*Дарагую жонку і матулю **Гелену Леанідаўну ПЯТКЕВІЧ** віншуем з 40-годдзем. Жадаем здароўя, радасці, дабрабыту.*

***Муж, дзеці**, в. Івашкаўцы.*

***Дарагая Кацярына БЫКАВА**, з днём нараджэння!*

*Как нежно в мае яблони цветут,*
*В саду сейчас такое оживленье.*
*В такой чудесный день*
*родилась ты,*
*Так, милая Катюша,*
*с днем рожденья!*

***Дзядуля, бабуля**, в. Газа Астравецкага раёна.*

## Зборка «зялёных» аўтобусаў пачнецца ў СЭЗ «Брэст»

**Да зборкі «зялёных» аўтобусаў маркі «Аўтасан» плануе прыступіць зарэгістраваная ў свабоднай эканамічнай зоне «Брэст» прадпрыемства, заснавальнікамі якога сталі брэсцкае МП «Тагіс» і польская фірма «Бус Трэйдынг».**

Нагадаем, што польскі вытворца з пяцідзесяцігадовым стажам прапанаваў арганізацыю зборкі аўтобусаў гарадскога, прыгараднага, міжгародняга і міжнароднага прызначэння. Прадукцыя «Аўтасан» адпавядае еўрастандартам па экалогіі, практычна не падвяргаецца карозіі, служыць 8—10 гадоў. Беларускім бокам было прынята рашэнне аб вытворчасці ў СЭЗ «Брэст» аўтобусаў толькі для прыгарадных маршрутаў. Сёння адзінае прадпрыемства ў Беларусі — лідскі завод «Нёман» выпрабляе ПАЗы і ЛіАЗы для мясцовых перавозак. Аднак колькасць транспартных сродкаў, што збіраюць у Лідзе, недастатковая, каб забяспечыць патрэбы парка рэспублікі.

Як стала вядома карэспандэнту «Звязды», пачатак вытворчасці «зялёных» «Аўтасанаў» запланаваны на чэрвень сёлетняга года.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## Баранавіцкі завод павялічвае аб'ём вытворчасці

**Баранавіцкі завод аўтаматычных ліній, пастаўшчык спецыяльнага абсталявання для аўтазаводаў, плануе сёлета павялічыць аб'ём вытворчасці асноўнай прадукцыі на 20 працэнтаў.**

За І квартал гэтага года аб'ём вытворчасці склаў 129 працэнтаў у супастаўных цэнах у параўнанні з адпаведным мінулагоднім перыядам, паведаміў в. а. дырэктара прадпрыемства Уладзімір Бялюк.

Каля 60 працэнтаў прадукцыі баранавіцкага завода набываюць расійскія прадпрыемствы, 40 працэнтаў — беларускія. Пастаянныя айчынныя пакупнікі — МАЗ, Мінскі маторны завод, МТЗ. Доля паставак у далёкае замежжа нязначная.

Баранавіцкі завод аўтаматычных ліній адчувае сябе ўпэўнена на расійскім рынку. І патрэбнасць у прадукцыі прадпрыемства, па словах Уладзіміра Белюка, расце. Засмучае толькі факт разліку пераважна бартэрам.

Акрамя станкоў завод выпрабляе тавары народнага спажывання, у прыватнасці, замочнае абсталяванне.

Гэтая прадукцыя таксама карыстаецца высокім попытам, і аб'ём яе вытворчасці расце.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## За мяжой недахват прадукцыі «Фрэбор»

**Сусветны лідэр па вытворчасці дыялізатараў для лячэння ныркавай недастатковасці — нямецкая фірма «Фрэзеніум» мае намер павялічыць свой уклад у статутны фонд СП «Фрэбор», што займаецца выпускам дыялізатараў на Беларусі, да 100 працэнтаў.**

Як паведаміў старшыня праўлення беларуска-нямецкага СП, дырэктар Барысаўскага завода медыцынскіх прэпаратаў, які з'яўляецца другім заснавальнікам фірмы «Фрэбор», Вячаслаў Драніца, за пяць гадоў сумеснай дзейнасці прадпрыемства не толькі дасягнула планавых рубяжоў. Сёння наспела неабходнасць пашыраць яго магутнасці.

Прадстаўнік германскага боку спадар Якабі з задавальненнем адзначыў, што барысаўскае сумеснае прадпрыемства прапануе такую прадукцыю, якая заваявала сусветны рынак. Гэта пацвердзіла атрыманне еўрапейскага сертыфікату якасці. Магутнасці СП сёння — 2 мільёны дыялізатараў у год, але ўжо ў гэтым годзе будзе выраблена іх 2,5 мільёна. Попыт на рынку Беларусі задавальняецца цалкам — тут рэалізуецца 10 працэнтаў выробленага. Астатняя прадукцыя знаходзіць свайго пакупніка за мяжой.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## Іспанскія тавары на іспанскія крэдыты?

Неўзабаве айчынны рынак зможа прапанаваць беларускім пакупнікам тавары іспанскай вытворчасці ў больш поўным асартыменце.

Крэдытная лінія Іспаніі ў памеры 25 мільёнаў долараў нядаўна адкрыта для фінансавання камерцыйных кантрактаў па пастаўках тавараў, выробленых у Іспаніі, а таксама паслуг. Мінімальная сума крэдыту — 100 тысяч долараў. Крэдытная лінія забяспечваецца гарантыяй Урада Рэспублікі Беларусь. З іспанскага боку лінію абслугоўвае банк «Сабадэль», з беларускага — «Белзнешэканомбанк».

## Экспарцёрам збіраецца дапамагчы беларуска-канадская карпарацыя

**Беларуская навукова-прамысловая асацыяцыя пры ўдзеле іншых айчынных суб'ектаў разам з дзелавымі людзьмі з Канады заснавалі беларуска-канадскую карпарацыю развіцця, якая будзе садзейнічаць наладжванню дзелавых кантактаў паміж дзвюма краінамі.**

У прыватнасці, асноўнымі накірункамі яе дзейнасці павінны стаць наступныя: інфармацыйная дзейнасць, прыцягненне канадскіх інвестыцый у рэспубліку, экспарт беларускіх тавараў і імпарт канадскіх, развіццё двухбаковых навуковых сувязяў. А адным з найбольш перспектыўных накірункаў, як лічаць у БНПА, мяркуецца дзейнасць карпарацыі ў якасці аб'яднанага гандлёвага прадстаўніцтва ў Канадзе.

## РОЗНАЕ

- мяняю 3-пакаёвую кватэру ў Паставах на 2-пакаёвую ў Маладзечне або Лузе.
*Тэл. у Паставах 2-51-97.*
- куплю «МТЗ-82» або абмяняю на л/а.
*Тэл. (8-017) 258-34-64.*
- куплю паперу для ксеракса, танна, ф. А4.
*Тэл. 253-92-26.*
- шукаю пастаяннага пакупніка ў г. Мінску для продажу клубніц, оптам да 500 кг.
*Тэл. у Лунінцы 9-76-03.*
- мяняю дом у г. Нясвіжы на 1-2-пакаёвую кватэру ў Мінску.
*Тэл.: 257-14-18, 223-92-45.*
- прапаную дом для жылля з участкам для прыстойнай сям'і, пенсіянераў, узамен — дапамога па сельскай гаспадарцы ў Чэрвеньскім раёне.
*Тэл. (8-214) 3-53-20.*
- мяняю дом на Чорным моры (Лазурнае, 60 кв. м, 30 сотак) на Гомель, Рэчыцу, Мінск.
*Тэл. у Рэчыцы 3-11-96.*
- мяняю кватэру 2-пакаёвую ў Баранавічах на кватэру ў Мінску.
*Тэл. (8-01596) 2-77-16.*
- іспанская мова: пераклад пісьмаў.
*Тэл. (8-216) 6-45-53.*

**ЗВЯЗДА**

**Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы**

**Запоўніце разборліва, выражце і вышліце на адрас рэдакцыі 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**

**АБАВЯЗКОВЫЯ звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.**

**Тэлефон для даведак 232-31-98.**

*Увага! Неразборліва запоўненыя купоны не разглядаюцца і не вяртаюцца.*
*Пры віншаванні ўказвайце прозвішча, імя, імя па бацьку таго, каго трэба павіншаваць.*

**Беларусь аддаленая ад Пакістана на чатыры тысячы кіламетраў. І рэха ядзерных узрываў, якія прагрымелі на мінулым тыдні ў пустынных раёнах далёкай азіяцкай краіны, на першы погляд, не дужа павінна нас хваляваць. Беларусь не прэтэндуе на першыя ролі ў сусветнай палітыцы. І якім-небудзь чынам уплываць на пашырэнне або скарачэнне «ядзернага клуба» наша краіна не ў стане.**

ГЕАПАЛІТЫКА

# РЭХА ХАЛОДНАЙ ВАЙНЫ

АДНАК гэта зусім не азначае, што Мінску няма патрэбы рабіць знешнепалітычныя высновы з бурных падзей, якія адбываюцца на берагах Індыйскага акіяна. Нам яшчэ належыць усвядоміць і асэнсаваць, што ў гэтыя апошнія гады адыходзячага тысячагоддзя перад намі і нашымі нашчадкамі паўстае новая пагроза, з якой суджана сустрэць новы век і якая здольная яшчэ пры жыцці нашага пакалення ўзарваць цяперашні сусветны парадак.

У многім гэта новая небяспека нагадвае нядаўні амаль саракагадовы перыяд «халоднай вайны» паміж Захадам і савецкім блокам. Тая ж знясільваючая гонка ўзбраенняў, тыя ж гіганцкія ваенныя бюджэты ва ўрон сацыяльным праграмам, тыя ж узаемныя прэтэнзіі, недавер, прапагандыцская вайна, аблытаныя калючым дротам межы, дэманстратыўныя ваенныя манеўры ля граніц патэнцыяльнага праціўніка...

Аднак ядзернае процістаянне ў перадгор'ях Гімалаяў выглядае намнога больш пагрозлівым і злавесным, нягледзячы нават на тое, што ў тэхнічным і тэхналагічным плане новыя ядзерныя дзяржавы няхутка здолеюць дасягнуць узроўню Захаду і запоўніць свае арсеналы такой жа колькасцю ракет і бомбаў. Прычына гэтага відавочная: у гады «халоднай вайны» сытая і заможная Еўропа, навучаная вопытам дзвюх сусветных войнаў, менш за ўсё жадала ператварыць сваю тэрыторыю ў ядзерны плацдарм. Еўрапейская цывілізацыя баялася і баіцца вайны. Ёй ёсць што губляць. Яна на генетычным узроўні прадчувае магчымыя вынікі трэцяй сусветнай...

Пояс новых ядзерных дзяржаў, які ўзнік у Азіі, — гэта іншы свет, іншая цывілізацыя, іншы гістарычны вопыт. Кітай, Індыя і Пакістан у сукупнасці складаюць палову насельніцтва планеты — 2,5 мільярда чалавек. Еўропа і Паўночная Амерыка (нават разам узятыя) выглядаюць карлікам у параўнанні з гэтай самай густанаселенай часткай Зямлі.

У той жа час усе тры краіны працягваюць заставацца беднымі. Вытворчасць валавога ўнутранага прадукту ў разліку на душу насельніцтва ў 1994 годзе складала: у Кітаі — 530 долараў ЗША; у Пакістане — 440; у Індыі — 310. Для параўнання: у ЗША гэты паказчык у той жа год быў роўны 25.860 доларам; у Германіі — 25.580; у Расіі — 2650; у Беларусі — 2160 долараў.

Полымя дзвюх сусветных войнаў, якое двойчы ў XX стагоддзі ператварала ў папялішча нашу частку кантынента, амаль не закранула азіяцкіх гігантаў. Гістарычная памяць гэтых народаў не ўтрымлівае таго страху перад жахамі вайны, які ўласцівы еўрапейцам, у тым ліку беларусам. Большасці з нас дзіканазіраць кадры тэлехронікі, на якіх індыйцы і пакістанцы трыумфуюць на вуліцах у захапленні ад ядзерных выпрабаванняў у сваіх краінах.

Пры гэтым глеба для магчымага ядзернага канфлікту ў гэтай частцы Азіі існуе ўжо сёння. Усе тры краіны даўно перасварыліся паміж сабой з-за ўзаемных тэрытарыяльных прэтэнзій. Індыя і Пакістан варагуюць з моманту набыцця незалежнасці ў 1947 годзе, калі на руінах былой каланіяльнай Індыі ўтварыліся дзве краіны, адна з якіх тут жа ўзяла курс на ісламізацыю. З-за спрэчнай правінцыі — Кашмір — паміж Дэлі і Ісламабадам ужо двойчы (у 1965 і 1971 гадах) даходзіла да ўзброеных канфліктаў.

Такія ж нацягнутыя адносіны ў Індыі з Кітаем — з-за памежных горных раёнаў, прыналежнасць якіх аспрэчваецца дзвюма азіяцкімі супердзяржавамі.

У апошнія гады Беларусь даволі актыўна развівала менавіта азіяцкі вектар знешняй палітыкі. Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка двойчы пабываў з афіцыйнымі візітамі ў Кітаі, адзін раз — у Індыі. Нямала высокапастаўленых беларускіх чыноўнікаў наведалі і Ісламабад — галоўным чынам прасоўваючы буйны шматмільённы кантракт на пастаўку ў гэту краіну мінскіх трактароў. Пры гэтым падчас шматлікіх візітаў у Пекін, Дэлі і Ісламабад, як правіла, не ўтойвалася, што абмяркоўвалася і шырокае кола праблем, звязаных з абаронным супрацоўніцтвам. Пад гэтай агульнай фармулёўкай часцей за ўсё мелася на ўвазе імкненне нашай краіны збыць прадукцыю сваіх абаронных прадпрыемстваў і лішак зброі, якая засталася ў спадчыну ад колішняй Савецкай Арміі.

Мінску давядзецца лічыцца з новым статусам сваіх азіяцкіх партнёраў. Праўда, з аднаго боку — існуе вялікая спакуса выкарыстаць гонку ўзбраенняў у гэтым рэгіёне ва ўласных інтарэсах, стаць пастаўшчыком зброі і ваенных тэхналогій. З другога ж боку — наша краіна не можа не ўлічваць інтарэсы агульнай бяспекі, і перш за ўсё бяспекі сваіх партнёраў па СНД. Ачаг патэнцыяльнай ядзернай пагрозы аддалены ад расійскіх межаў на паўтары тысячы кіламетраў; ад межаў сярэднеазіяцкіх краін СНД (перш за ўсё Таджыкістана, Кіргізіі і Казахстана) — усяго на некалькі соцень кіламетраў. Фактар адлегласці ў гэтай сітуацыі можа стаць вырашальным: менавіта ад яго залежыць, на чые галовы апусціцца воблака ад магчымага ядзернага выбуху.

Адначасова істотна мяняецца сэнс паняцця «ахова агульных межаў СНД». Служба пагранічнікаў на рацэ Пяндж (на таджыкска-афганскай мяжы) становіцца яшчэ больш небяспечнай — ужо і з-за ядзернай пагрозы. Падпісваючы інтэграцыйныя дакументы ў рамках Садружнасці, беларускія палітыкі павінны ўлічваць гэту акалічнасць.

Многія палітолагі сцвярджаюць, што ў новым тысячагоддзі ранейшая лінія процістаяння Усход—Захад зменіцца на новую — Поўнач—Поўдзень. Падобна на тое, што гэтыя прагнозы пачынаюць спраўджвацца.

З глабальнага пункту гледжання новы вектар смяротнай небяспекі нічым не лепшы за папярэдні. Але кожная краіна глядзіць на гэту праблему найперш з пазіцыі сваёй уласнай бяспекі. У гэтым сэнсе Беларусь, магчыма, упершыню за некалькі стагоддзяў можа перастаць выконваць ролю буфернай зоны, пярэдняга краю процістаяння. Перад рэальнай пагрозай таго, што ядзернай зброяй (а значыць, і рычагамі ядзернага шантажу) авалодаюць таталітарныя рэжымы бедных азіяцкіх краін — краіны НАТО і Расія міжволі вымушаны выступаць з аднолькавых ці блізкіх пазіцый.

Беларусі такая глабальная змена геапалітычных рэалій была б яўна на карысць: адна справа, калі твая тэрыторыя разглядаецца ў якасці верагоднага тэатра ваенных дзеянняў, аб'екта, на які нацэлены ракеты; зусім іншая — калі гэты верагодны тэатр перамяшчаецца на чатыры тысячы кіламетраў у іншую частку свету.

**Валянцін ЖДАНКО.**

# Чаму ў Расіі ў моду ўваходзяць «нацы»?

Яшчэ гадоў дзесяць таму ў жыццёвых спрэчках не было большай знявагі для апанента, як назваць яго фашыстам. Фашыст — значыць гад, мярзотнік, горш нічога не бывае. Гэта факт: да 90-х гадоў фашызм у Расіі быў не з'явай, а публічнай знявагай. Хоць сама з'ява існавала ў скрытых латэнтных формах, не ўяўляючы сур'ёзнай пагрозы грамадству. Афіцыйная ідэалогія дзяржаўнай велічы («Я другой такой страны не знаю...») цалкам адпавядала поглядам легальных і падпольных нацыяналістаў, а таксама ўсіх грамадзян, якія не пакутавалі ніякімі ультрапатрыятычнымі комплексамі. Інакш кажучы, Хрушчоў і Брэжнеў не маглі разбудзіць Баркашова.

Чырвоны сцяг, узняты над рэйхстагам у 45-м, здавалася, стане прыгаворам фашызму, яго ідэалогіі на стагоддзі. На жаль, здарылася інакш.

Карычневая ідэалогія праз дзесяцігоддзі сама прыйшла на рускую зямлю. Прычым адтуль, адкуль не чакалі. З паволжскіх стэпаў, сібірскіх пратораў, з казкаўзскіх гор, сярэднярускіх раўнін. Працей кажучы — з самой Расіі.

Старшыня думскага Камітэта па справах нацыянальнасцяў Уладзімір Зорын пракаменціраваў мне гэты феномен так: «Уявіце, аднойчы ўначы вы прачнуліся, напрыклад, у Ташкенце, Алма-Аце або ў Таліне і даведаліся, што са «старэйшага брата» ператварыліся ў нацменшасць. А так менавіта і здарылася ў снежні 1991 года. Як перажыць гэты шок без вынікаў? Немагчыма. Нацызм і выступіў кампенсацыяй страчанай нацыянальнай велічы».

Тым не менш, Зорын перакананы: «Фашызм у Расіі — маргінальная з'ява. Усё роўна рускія людзі яго не ўспрымуць».

Ці так? Культурныя немцы ў 30-х гадах аказаліся вельмі ўспрымальнымі да прапаганды «карычневай чумы». Што ж, мы — з іншага цеста? Нашы беды — распад дзяржавы, сацыяльны недабрабыт, ушчэмленая нацыянальная годнасць — раняць нас менш?

### Радавыя карані «нацы»

Вучоныя выдзяляюць некалькі радавых прымет фашызму (пад ім я маю на ўвазе нацызм, нацыянал-сацыялізм, нацыянал-бальшавізм і інш.). Пералічу некалькі.

Крайні нацыяналізм. Містычная вера ў дзяржаву. Агрэсіўная ксенафобія (у Расіі сёння яна выражаецца ў формах антысемітызму і каўказафобіі). Вера ў канструктыўныя магчымасці насілля (палітычнага, эканамічнага). Экспансіянізм (ідэяй абмыцць боты ў Індыйскім моры жыве зусім не адзін Жырыноўскі). Антыпарламентарызм (парламенцкую сістэму дэмакратыі не прымалі ў роўнай меры і Гітлер, і Ленін). Вера ў правадыра і правадырызм. Мілітарызм. Надакучлівы патэрналізм (г. зн. удзел дзяржавы ў сацыяльным ураўноўванні). І самая галоўная прымета фашызму — страх перад свабодай. 75-гадовы вопыт фашысцкай практыкі сведчыць, што асоба, якая самастойна думае і дзейнічае, для правадыроў — вораг нумар адзін. «Свабодныя» цяжка паддаюцца ідэйнай апрацоўцы. Не выпадкова з гітлераўскай Германіі ўцякалі лепшыя прадстаўнікі нямецкай нацыі, а ў сталінскай Расіі яны або расстрэльваліся, або сядзелі ў «гулагах». Выпадкова праведзеныя паралелі Гітлер—Сталін, Гітлер—Ленін на самай справе не выпадковыя. У ідэалогіі ваяўнічага фашызму і дагматычнага камунізму розныя зыходныя прыярытэты (чысціня крыві і роўны сацыяльны дабрабыт для ўсіх), але практыка падобная — бесцырымоннае ўварванне ў асабістае жыццё і татальнае насілле. Наогул, злучэнне нацыяналізму і сацыялізму, як паказаў вопыт, не можа не параджаць грымучую сумесь, якая ўзрывае мірныя асновы жыцця.

### Што цяпер?

Праўда, за пасляваенныя гады фашызм як публічная з'ява не мог не пацярпець істотных змен. Ён прыстасаваўся да абставінаў. Напрыклад, ужо не прапаведуе адкрыта антыпарламентарызм, наадварот, укараняецца ў структуры прадстаўнічай улады. Рускае нацыянальнае адзінства Баркашова не ўпускае выпадку, каб выставіць кандыдатамі ў дэпутаты ўсіх узроўняў сваіх прадстаўнікоў. Дэпутатам Дзярждумы быў адкрыты нацыст Мікалай Лысенка. Нацыянал-бальшавік Эдуард Лімонаў балаціраваўся ў Дзярждуму. Наогул у Расіі, паводле падлікаў спецыялістаў, каля 90 партый і рухаў у той ці іншай ступені прызнаюць ідэалогію нацыянал-сацыялізму.

Калоны баркашоўцаў і тых, хто ім спачувае, маршыруюць ужо адкрыта не толькі па кастрамскіх вуліцах. Малойчыкі са свастыкай на рукавах патрулююць разам з міліцыяй вуліцы Варонежа. Газеты нацыстаў («Штурмовик», «Черная сотня», «Русский порядок» і інш.) свабодна прадаюцца ў сценах Думы і ля сцен Крамля. Выбухі сінагогі ў Мар'інай Рошчы, забойства гандляра-азербайджанца ў Лужніках (следства схіляецца да версіі, што гэта справа рук «брытагаловых») паказвае, што карычневае семя дае ядавітыя ўсходы.

Самы характэрны сімптом — палітычныя сімпатыі народных выбраннікаў. У Думе намаганнямі левых фракцый адхілены законапраекты аб крымінальнай адказнасці за апраўданне злачынстваў нацыянал-сацыялісцкага і фашысцкага рэжымаў, аб забароне экстрэмісцкіх арганізацый. Стварэнне камісіі пры прэзідэнце РФ па процідзеянню палітычнаму экстрэмізму ў Расіі таксама выклікала рэзкае процідзеянне ў Думе. Г. зн. глеба ўжо грунтоўна «ўгноена» і ў вышэйшых эшалонах.

Што так прыцягвае ў ідэалогіі «карычневых»? Іх лозунгі ў многім сугучныя настроям выбаршчыкаў. Ну хто будзе пярэчыць, каб добрасумленная праца была выгаднай, каб міліцыя не лісліліла перад бандамі чужакоў, каб суд не апраўдваў зладзеяў, гвалтаўнікоў і забойцаў, каб зямля і нетры належалі не шайцы злачынцаў, а ўсёй нацыі, каб украдзеная маёмасць была канфіскавана. Гэта я цытую заклікі РНЕ. Ніхто! І я падпішуся пад імі.

Падлеткі ж наогул з лёгкасцю адгукаюцца на дысцыплінуючыя патрабаванні і заклікі да выдуманай справядлівасці. Прайсці чаканным крокам, надзець уніформу, адчуць сябе месіяй, выратавальнікам нацыі, які мае дачыненне да клана выбраных, атрымаць магчымасць камандаваць іншымі. О, як цягнецца да гэтага «брацтва» юная душа, асабліва ўшчэмленая ў чым-небудзь.

У рэшце рэшт, Гітлер пачынаў з піўнушак. А праз 15 гадоў яго нацыянал-сацыялістычная рабочая партыя выйграла парламенцкія выбары. Яшчэ праз тры гады ён стаў рэйхсканцлерам. І Германія надзела на сябе заспакаяльную кашулю.

Прэзідэнт Інфармацыйна-даследчага цэнтра «Панарама» Уладзімір Прыбылоўскі выдзяляе каля 20 партый, якія, на яго погляд, дакладна з'яўляюцца фашысцкімі. Сярод іх Рускае Нацыянальнае адзінства Аляксандра Баркашова, Нацыянальна-патрыятычны фронт «Памяць» Дзмітрыя Васільева, Нацыянал-бальшавіцкая партыя Эдуарда Лімонава, Нацыянальна-працоўная партыя Аляксандра Аляксеева, Нацыянал-сацыяльны саюз Віктара Якушава, Нацыянальна-рэспубліканская партыя Расіі Юрыя Бяляева і Уладзіміра Лысенкі (лідэры паміж сабой варагуюць), Нацыянал-сацыялістычная руская рабочая партыя Міхаіла Глухава, «Чорная сотня» Аляксандра Штыльмарка і іншыя.

**Ірына ПЕТРАКОВА,**
**уласны карэспандэнт газеты «Звязда» ў Маскве.**

## Post Factum

### Гэты дзень у гісторыі

● **У гэты дзень у 455 годзе** варвары пасля абяцання іх караля Гейзірыха рыжскаму папе Льву II не паліць горад беспераШкодна ўступілі ў Рым і на працягу двух тыдняў рабавалі яго.

● **2 чэрвеня 1840 года** нарадзіўся вядомы англійскі пісьменнік-рэаліст Томас Хардзі, адзін з буйнейшых лірычных паэтаў XX стагоддзя. Яго сэрца пахавана ў магіле яго жонкі, а прах змешчаны побач з Чарльзам Дзікенсам у Вестмінстэрскім абацтве.

● **У гэты дзень у 1896 годзе** італьянец Гульельма Марконі запатэнтаваў радыё.

● **2 чэрвеня 1919 года** нарадзіўся Юрый Трафімавіч Цімашэнка, артыст савецкай эстрады. Калі гэта яго імя вам невядома, нагадаем іншае — Тарапунька.

● **У гэты дзень у 1946 годзе** ў выніку праведзенага ў Італіі рэферэндуму ліквідавана манархія.

● **2 чэрвеня 1953 года** ў Вестмінстэры была каранаваная 27-гадовая Лізавета II. Яна ўступіла на прастол праз 16 месяцаў пасля смерці свайго бацькі, караля Георга VI.

● **2 чэрвеня 1962 года** ў горадзе Навачаркаску Растоўскай вобласці войскамі была падаўлена дэманстрацыя пратэсту працоўных супраць павышэння цэн. 24 чалавекі загінулі, 39 было паранена. Сямёра ўдзельнікаў хваляванняў былі расстраляны пасля суда. Толькі Герой Савецкага Саюза, генерал-лейтэнант Матвей Шапашнікаў адмовіўся выконваць злачынны загад страляць у людзей, за што быў выключаны з радоў КПСС і звольнены на пенсію. У 1996 годзе прэзідэнт Барыс Ельцын падпісаў указ аб рэабілітацыі ахвяр 1962 года і ўзвядзенні помніка.

### Неверагоднае, загадкавае

***Больш як 20 гадоў французскі псіхолаг Клод Арно займаецца вывучэннем прычынна-выніковых сувязяў паміж падзеямі.***

— У мяне сабраны тысячы фактаў, калі людзі «праследаваліся» не толькі абставінамі і сітуацыямі, але і лічбамі, імёнамі, датамі, — кажа прафесар. — Напрыклад, аўстралійская акушэрка па прозвішчу Трыплет, што ў перакладзе азначае «трайны», нарадзілася 3 сакавіка, жыве ў доме № 3 на трэцім паверсе. Місіс Трыплет тройчы была замужам і нарадзіла траіх дзяцей. А вось у амерыканскім штаце Луізіяна, траіх мужчын прыгаварылі да смяротнага пакарання за забойства з мэтай рабавання Клайва Дорыта, які жыў па вуліцы Сцілроуд Плейс. У ходзе следства было высветлена, што забойцы насілі прозвішчы Сціл, Роуд і Плейс.

Камічны інцыдэнт адбыўся нядаўна ў Сафіі. Злодзей Мілка Стаянаў, ачысціўшы адну з кватэр і акуратна склаўшы нарабаванае ў руказк, вырашыў дзеля хуткасці спусціцца па вадасцёкавай трубе. У гэты час ён пачуў свісткі паліцэйскіх. Разгубіўшыся, ён выпусціў трубу з рук і паляцеў уніз. Якраз у той момант па тратуары прабягаў нейкі чалавек, і Мілка зваліўся прама на яго. Падаспеўшыя паліцэйскія на абодвух надзелі наручнікі. Высветлілася, што хлопец, на якога зваліўся Мілка, быў таксама злодзеем-дамушнікам, якога пасля доўгіх пошукаў паліцыі нарэшце ўдалося высачыць. Цікава ў гэтым тое, што і яго звалі Мілка Стаянаў.

Жыхар Барселоны Рамірэс вяртаўся на мапедзе з дыскатэкі, быў збіты машынай таксі на вуліцы Манкада. Яго даставілі ў шпіталь з цяжкімі траўмамі. Праз пару месяцаў, выпісаўшыся, ён зноў паехаў на дыскатэку. Праязджаючы па вуліцы Манкада, ён зноў трапіў пад колы таго ж самага таксі, якім кіраваў той жа вадзіцель.

### Дзесьці на белым свеце

***Урад паўднёваафрыканскай краіны Мазамбік прынёс афіцыйныя прабачэнні суседняй дзяржаве Зімбабве.***

Справа вось у чым. Нядаўна ў Мапуту (сталіца Мазамбіка) адбыўся футбольны матч паміж камандамі гэтых дзвюх краін, у ходзе якога гасцей з Зімбабве абвінавацілі ў ... вядзьмарстве і выкарыстанні чорнай магіі ў спорце. Паколькі вядзьмарыць «пад мяч» у тутэйшых месцах лічыцца дрэнным тонам, то справа закончылася мардабоем.

У злашчасным матчы мазамбікскі клуб «Феравіэйра» прайграў зімбабвійскаму «Дынамасу» з лікам 0:1 і вылецеў з лігі арфыканскіх чэмпіёнаў.

Балельшчыкі прайграўшай каманды сталі крычаць, што ў варатара гасцей пальчаткі «загавораны» спецыяльным заклінаннем, інакш бы ён не змог адбіць пенальці і некалькі небяспечных удараў.

Ігрок «Феравіэйра» скраў пальчаткі варатара, калі той скінуў іх, каб папіць вады і паправіць амуніцыю. Варатар кінуўся адбіраць дабро. У гэты час па гучнагаварыцелю аб'явілі, што ён вядзьмак. Публіка высыпала на поле і прыняла дзейсны ўдзел у вырашэнні ісціны. У патасоўцы пацярпела некалькі дзесяткаў чалавек, у тым ліку і прадстаўнікі паліцыі. Вось такі футбол.

### Можа і так

***Чуткі аб тым, што ўсе жанчыны планеты пагалоўна закахаліся ў Леанарда дзі Капрыо — не больш чым містыфікацыя.***

Юны акцёр, які ўдала зняўся ў «Рамэо і Джульеце», «Тытаніку» і «Чалавеку ў жалезнай масцы», сапраўды пакарыў сэрцы дзяўчынак-тынэйджэраў.

Але сур'ёзныя дамы, якія ведаюць толк у мужчынах, адносяцца да яго вельмі паблажліва. Ва ўсякім разе, апытанне, праведзенае амерыканскім часопісам «Піпл», паказала, што прадстаўніцы прыгожай палавіны аддаюць перавагу не прыгожанькім хлапчукам, а бывалым мужыкам — дужым, абаяльным, з рамантычнымі маршчынамі на ілбе і сівізной у валасах.

Карацей кажучы, такім, як Мэл Гібсан, якога глядачкі не змаўляючыся паставілі на першае месца. Другое падзялілі Том Круз і круты хлопец Харысан Форд. На трэцім — Брус Уіліс. Леанарда дзі Капрыо адсунуты на ганаровае пятае месца.

### Анекдот

*Дачка — маці:*

*— Мама, папрасі тату, каб ён даў мне грошай на новыя туфлі.*

*— Папрасі сама. Ты неўзабаве выходзіш замуж, пара табе прывыкаць да самастойнасці.*

**Дзе жывуць людзі, там абавязкова бывае смецце — гэта непазбежна. Іншая справа, як яго збіраюць і утылізуюць, бо, акрамя экалагічнага моманту, тут яшчэ прысутнічае і матэрыяльны — не сакрэт, што з адходаў таксама можна рабіць грошы. Але найперш стаўленне да праблемы смецця гаворыць аб культуры грамадства ў цэлым. Думаецца, і гэта пацвярджае жыццё, развіццё тэхналогій, навукі, тэхнікі немагчыма на фоне забруджаных вуліц і пад'ездаў. Чалавек не можа адначасова рухаць прагрэс наперад і жыць заможна, калі на працы і ў быце ён паводзіць сябе горш за жывёлу. Не трэба шукаць паказчыкі развіцця многіх замежных краін — дастаткова хаця б раз убачыць іх плошчы, вуліцы, дамы. На ўласныя вочы давялося назіраць незвычайную (пасля Беларусі) чысціню ў Польшчы, Чэхіі. Паўсюдна спецыяльныя кантэйнеры для самых розных відаў адходаў: шкла, паперы, пластмасы і інш. Яркая афарбоўка, ніякіх звыклых для нас пахаў. Праўда, адзін раз я быў амаль шакіраваны, калі ў Лондане ўбачыў, як нават дзелавыя англійскія лэдзі па-заліхвацку шпурлялі цыгарэтныя акуркі прама сабе пад ногі. Канешне, у Мінску такое даводзілася назіраць неаднойчы, але тут... Сітуацыю растлумачыла перакладчыца. Справа ў тым, што ў Лондане час ад часу ўзрываюцца бомбы, якія ірландскія тэрарысты падкладваюць для маскіроўкі менавіта ў бакі для смецця. Таму ў мэтах бяспекі ў цэнтральнай частцы горада іх убралі. Замест гэтага некалькі разоў у дзень на тратуары, дарогі выязджаюць невялікія машынкі, якія імгненна наводзяць чысціню. Што пагражае нам, якія і чые бомбы, калі нават у цэнтры вялікага горада часам няма куды выкінуць паперку?.. Чаму адхоны чыгуначных пуцей, ледзь выедзеш за гарадскую мяжу, нагадваюць кадры кінахронікі падчас бамбёжкі: паўсюдна смецце, бруд? Аб гэтым і іншым — у матэрыялах нашых карэспандэнтаў.**

# ЦІ МОЖНА ЖЫЦЬ ЗАМОЖНА І ПЛЯВАЦЬ САБЕ ПАД НОГІ?

## СМЕЦЦЯ СТОЛЬКІ, ШТО ВОЗЯЦЬ БЕЗ ВЫХАДНЫХ

**Вялікія гарады — вялікія праблемы: за мінулы год з Мінска было вывезена 2 млн. 853 тысячы кубічных метраў бытавых адходаў. Няцяжка падлічыць, што кожныя суткі жыхары сталіцы выдаюць «на-гара» (магчыма, у прамым сэнсе) амаль 8 тысяч кубічных метраў living рознага смецця. Менавіта штодзень, таму і вываз з горада бытавых адходаў ажыццяўляецца без выхадных.**

Займаецца гэтай справай прадпрыемства «Спецкамунаўтатранс», чый парк налічвае 237 аўтамабіляў, з якіх 198 — уласна спецыяльныя машыны для вывазу смецця. Кожны смеццявоз працуе па паўтары змены кожны дзень. Тэхніка гэтая не новая — яшчэ тры гады таму знос парка складаў 70 працэнтаў, праўда, цяпер гэтую лічбу ўдалося знізіць да 47 працэнтаў. Хаця ніхто не адмаўляе, што знос парка лічыцца нармальным, калі ён не перавышае 20 працэнтаў.

Горад падзелены на ўчасткі, за кожным замацаваны вадзіцель. Машыны маюць рацыі, што дазваляе аператыўна каардынаваць іх работу. Галоўнай праблемай у працы намеснік дырэктара «Спецкамунаўтатранса» Іван Віннічак назваў забітасць двароў машынамі грамадзян — нярэдка немагчыма пад'ехаць да кантэйнера з адходамі. Логіка грамадзян простая: выкінуў смецце з кватэры — далей галава няхай баліць у іншага. Не трымаюцца асабліва і кадры — за май сярэдняя зарплата вадзіцеляў складзе недзе каля 6 млн. рублёў.




Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

На сённяшні дзень у Мінску налічваецца таксама 14.179 прыватных домаўладанняў. Па словах Івана Віннічака, дагаворы на вываз смецця з прадпрыемствам заключылі 11.142 домаўладальнікі. Здаецца, неблага, але плацяць з іх толькі 50 працэнтаў. Астатнія сцвярджаюць: маўляў, смецця няма. Куды яно «знікае», здагадацца не цяжка.

Утылізацыяй і перапрацоўкай бытавых і прамысловых адходаў Мінска займаецца дзяржаўнае прадпрыемства «Экарэс». Яно мае тры палігоны («Паўночны», «Прудзішча» і «Трасцянец») агульнай плошчай у 70 гектараў і завод механізаванай перапрацоўкі цвёрдых бытавых адходаў. Сумарны аб'ём адходаў, што паступае на палігоны і завод, складае 3 млн. кубічных метраў штогод. Як паведаміў дырэктар «Экарэса» Іван Хоміч, палігон «Паўночны» — самы малады, ён будаваўся па праекту, які прадугледжвае гідраізаляцыю ад пападання шкодных рэчываў у грунтавыя воды. Два іншыя палігоны з'явіліся на месцы былых кар'ераў, яны маюць спецыяльныя свідравіны для кантролю грунтавых водаў. Назіранні паказваюць, што вада адпавядае нарматывам.

Завод механізаванай перапрацоўкі цвёрдых бытавых адходаў у Шабанах будаваўся адным з першых у 1971 годзе. Зразумела, магутнасцяў яго ўжо не хапае: ён перапрацоўвае толькі пятую частку ад таго аб'ему бытавых адходаў, што дае Мінск. Тут здабываюць чорныя і каляровыя металы, біятэрмічным спосабам перапрацоўваюць смецце, якое ў выніку губляе ў аб'ёме ў 4-5 разоў і ўжо не ўяўляе былой небяспекі з-за наяўнасці шкодных рэчываў. Прайшоўшыя апрацоўку адходы вывозяць на палігоны, дзе выкарыстоўваюць у якасці гідраізаляцыі.

Па словах Івана Хоміча, зараз шэрагам уладных структур разглядаецца пытанне аб мадэрнізацыі і павелічэнні магутнасцяў гэтага завода.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ЗВАЛАК СТАЛА МЕНШ, АЛЕ...

**На пачатку сёлетняга красавіка многія гамяльчане былі сведкамі таго, як новы мэр Аляксандр Якабсон з кампаніяй у пятнаццаць чалавек аб'язджаў вакол горада на... дрызіне. Хто-ніхто падумаў тады: пікнік нейкі незвычайны наладзіла начальства.**

Між іншым, то сапраўды быў незвычайны момант: старшыня гарвыканкама вырашыў паказаць кіраўнікам адміністрацый раёнаў, некаторых прадпрыемстваў, аддзялення чыгункі, камунальных службаў, які беспарадак і антысанітарыя на тэрыторыі, што прылягае да чыгункі. Вэрхал там быў такі, што загадчык аддзела аховы навакольнага асяроддзя Генадзь Росін спісаў цэлы блакнот: звалкі смецця — паўсюдна.

Тая выязная нарада была афармлена пратаколам, дзе канкрэтным асобам прапаноўвалася да вызначаных тэрмінаў зрабіць тое і тое. Кантроль за выкананнем намечанага ўскладваўся на вышэйпамянёны аддзел. З таго часу прайшло амаль два месяцы. І што ж? Абсалютная большасць намечанага выканана. Але вось «сюрпрыз» — замест старых звалак дзенідзе з'явіліся новыя. Аказваецца, іх стварылі з ведама або з-за патурання некаторых нядбайных кіраўнікоў сярэдняга звяна асобных прадпрыемстваў, якім толькі і клопату, што вываліць смецце недзе паблізу. Вінаватыя (а іх было выяўлена 36 чалавек) вымушаны былі ўплаціць штраф са свайго асабістага кашалька ў суме 10,5 мільёна рублёў.

Гэта толькі адзін прыклад таго, як у Гомелі змагаюцца за чысціню і парадак. Нельга тут не сказаць і пра наступнае.

Гарадская звалка, або палігон цвёрдых бытавых адходаў, які займае плошчу 8,8 гектара і эксплуатуецца ўжо каля трыццаці гадоў, знаходзіцца ад Гомеля за 13 кіламетраў. І амаль увесь гэты час у шэрагу прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў знаходзіліся такія «мудрацы», якія не-не ды імкнуліся зваліць тое смецце дзе-небудзь на ўскраіне горада або ў лесе. Маўляў, да звалкі далекавата, ды і плаціць ёй трэба.

Але, як гаворыцца, хіцер Зміцер, але і Саўка не дурны. Гарвыканкам абавязаў асобным рашэннем, каб спецаўтапрадпрыемства па санітарнай ачыстцы горада, структурным падраздзяленнем якога з'яўляецца звалка, рэгістравала ўсе транспартныя сродкі, якія дастаўляюць туды смецце, з абавязковай адзнакай палігона ў пуцявых лістах. Тым жа рашэннем кіраўнікам прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў рэкамендавана не прымаць да выплаты пуцявыя лісты ў вадзіцеляў аўтамашын і трактарыстаў, калі там не будзе штампа палігона. Тым самым на шляху нядбайных выканаўцаў быў пастаўлены своеасаблівы шлагбаум. Калі ж хто асмельваўся праігнараваць гэтае рашэнне, яго чакала самае строгае пакаранне.

Не так даўно шмат звалак было ў прыгарадных лясах. Іх называлі стыхійнымі. Але ж якія яны стыхійныя, вырашылі ў гарвыканкаме, калі іх утварылі прадпрыемствы, і разгледзелі гэтае пытанне. І вось вынік: зараз угоддзі мясцовага лясгаса і Каранёўскай доследна-эксперыментальнай базы Інстытута лесу, што прымыкаюць да абласнога цэнтра, замацаваны за прадпрыемствамі горада для правядзення там санітарнай ачысткі, утрымання і ўладкавання месцаў адпачынку. Праўда, гэта было не даспадобы асобным кіраўнікам фабрык, заводаў і вытворчых аб'яднанняў. ды нічога: прывыклі, бо па ўказаных пытаннях іх сабірала мясцовая ўлада адзін раз у тыдзень.

У перспектыве побач з існуючым палігонам мяркуецца пабудаваць смеццеперапрацоўчы завод. Ужо маецца яго праект, заказана частка абсталявання. У аснове тэхналагічнай схемы утылізацыі адходаў на ім ляжыць абясшкоджванне арганічнай часткі іх шляхам біятэрмічнай апрацоўкі з тым, каб у канчатковым выніку атрымліваць кампост для яго далейшага выкарыстання.

Але гэта, паўтараю, у перспектыве, бо эканамічныя няўвязкі сённяшняга дня і дня мінулага затрымліваюць яго будаўніцтва. А пакуль у горадзе ідзе раздзельны збор макулатуры, жалеза, тэкстыльнага стар'я, пластмасы і іншай сыравіны.

... Пад вечар на адной з вуліц горада, заселенай жыхарамі прыватнага сектара, бачыў, як з аднаго з іх борзда выбегла маладзіца з вядром бітай цэглы, азірнулася і шуганула яе ў канаву, дзе ўжо была невялікая кучка іншага смецця. Яшчэ раней, але ўжо на іншай вуліцы, назіраў тое ж самае. У чым тут справа? Аказваецца, у прыватным сектары не ўсюды маюцца кантэйнеры для збору смецця, хаця на базе спецаўтапрадпрыемства стаіць іх каля паўтысячы. Устанавіць бы іх, але паспрабуй вывезці потым, бо транспарту ў аўтапрадпрыемства не хапае. Набыць яго? Але дзе ўзяць тыя шэсць мільярдаў рублёў, каб яго купіць і зняць праблему ўборкі смецця ў прыватным сектары?

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

**(Працяг тэмы будзе.)**

## У МАЛАДЗЕЧНА ЗА «ЖЫВЫМ ГУКАМ»

**19 чэрвеня ў Маладзечне зноў загучаць фанфары адкрыцця V нацыянальнага фестывалю песні і паэзіі. Летась фестываль «адпачываў», збіраў сілы, сродкі і песні да 1998 года.**

Горад адзначае 610-годдзе з першага ўпамінання ў летапісах, таму тры чэрвеньскія дні жыхары змогуць «культурна адпачываць» літаральна з ранку да ранку. Своеасаблівае гарадское свята дапоўніцца прафесійнымі беларускімі артыстамі.

Першымі на сцэну выйдуць дзеці — пераможцы фестывалю беларускай дзіцячай песні. А вось урачыстае адкрыццё ў прамым эфіры на тэлебачанні пачнецца з конкурсу маладых выканаўцаў. Каб атрымаць права ўдзельнічаць у нацыянальным конкурсе, фіналісты прайшлі адборачныя туры ў абласцях. Цікавым абяцае быць канцэрт-процістаянне. З аднаго боку беларускую песню прадставіць хор імя Цітовіча. З другога — у адказ славутаму калектыву — свае песні праспяваюць папулярныя цяпер у моладзі рок, і поп-гурты. А завяршыцца ўсё павінна канцэртам, пра які Міхаіл Фінберг, мастацкі кіраўнік фестывалю, марыў вельмі даўно. Канцэртам, які павінен адбыцца без аніякай фанаграмы, нават «мінус адзін». У ім прымуць удзел усе вядомыя беларускія артысты, якія далі згоду працаваць з жывым гукам.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

Фирма "ОМА" постоянно продает со складов в Минске, Могилеве, Гродно, Витебске, Бресте, Гомеле

ОМА

ИНСТРУМЕНТ

**МЕТАЛЛОРЕЖУЩИЙ:** сверла с цилиндрич. и конич. хвостовиком, центровочные, с твердосплавным наконечником, метчики, плашки, резьбонарезные ролики, клуппы трубные, развертки;
**МЕРИТЕЛЬНЫЙ:** угольники метал., штангенциркули, угломеры, радиусомеры, индикаторы, нутромеры индикаторные, микрометры, рулетки, скобы индикаторные, циркули разметочные, метры складные, дерев., плитку концевую, угольники столярные алюм., меры длины, линейки металлические, стойки магнитные;
**СЛЕСАРНЫЙ:** плоскогубцы, зубила, круглогубцы, ножницы по металлу, арматурные, кусачки, кусачки боковые, торцовые, клещи, отвертки, напильники разные, рашпили, надфиля, молотки любые, ключи, ключи рожковые, трубчатые оцинков., разводные, торцовые, гаечные, шарнирные, ключи сантехника, накидные, ключи для съемки масляных фильтров, динамометрические, КТР № 1,2,3,4, патроны сверлильные, полотно механич. пилы, кувалды, полотно ножовочное по металлу, тиски, лампы паяльные, прошивки цинковые, шприцы автомобильные смазочные, съемники, струбцины, труборезы, шестигранники, патроны токарные, тали, головки торцовые, трубогибы, щупы, державки, ножовки по металлу окс.;
**ЭЛЕКТРОИНСТРУМЕНТ:** электродрели, электроножницы, электроперфораторы, электромолотки, электропилы, электролобзики, электрорубанки, машины затирочные, строгальные, паркетно-шлифовальные, мозаично-шлифовальные, пневмошлифовальные, углошлифовальные, сварочные аппараты, паяльники, вибраторы, ТЭНы, краскопульты, устройства зарядные, аппараты для сварки линолеума, компрессоры, пневмосверлилки, пневмогайковерты, пневмоножницы, пневмоломы, молотки отбойные, пики к ним, переноски, ленточно-шлифов. машинки, дрели аккумул., станки деревообрабатыв., шлифмашинки торцовые, шуруповерты, отвертки индикаторные;
**ДЕРЕВООБРАБАТЫВАЮЩИЙ И СТРОИТЕЛЬНЫЙ:** долота, стамески, рубанки двойные дерев., рубанки метал., полуфуганки метал., ножовки по дереву, стеклорезы роликовые, шпатели, топоры большие без ручки, ломы строительные, пилы дисковые, пилы поперечные, ножи фуговальные, патроны строительн., дрели ручные малые, коловороты, лопаты штыковые, совковые, черенки для лопат, топорища, кельмы штукатурные, кельмы каменщика, молотки-кирочки, молотки печника с ручкой, щетки метал. длинноворсные, кисти флейцевые, пластмас., круглые, радиаторные, для стен, рубанки дер. и метал., калевки, валики метал., щитки электросварщиков, горелки газосвар., баллоны кислородн., резаки, керосинорезы, электроды, резаки пропановые, комплекты газосварщика, газогенераторы, редукторы, шланги напорные, краскопульты, пломбиры с клеймом, шпагат пломбировочный, пломбы свинцовые, отвесы строительные, уровни гидравлические, брусковые, уровни строительные, лазерные, гвозди, скобы строительные, дюбеля, шурупы-саморезы, пистолеты строит., ножовки столярные, дрели двухскоростные, дюбеля пластик., заклепки, линейки для покраски, приборы для резки плитки, шубки для валиков, шурупы, болты с гайкой, проволоку сварочную, зензюбеля, терки и полутерки пенопласт. и пластмас., кирки, фуганки, шерхебели, фальцгебели, гвоздодеры;
**МЕТАЛЛООБРАБАТЫВАЮЩИЙ:** фрезы шпоночные, торцевые с цилиндр. хвост., торцевые с конич. хвост., отрезные, с прямым ножом, пазовые стальные, с напаян. пластиной, резцы отрезные, упорно-подрезные, подрезные, отогнутые, копиров. упорно-подрезные, проходные, проходные отогнутые, резьбонарезные, внутренние и наружные, расточные сквозные, расточные упорные, гайкорезы;
**АБРАЗИВНЫЙ:** круги шлифов. (материал 14А, 25А, 54С, 64С, 95А) различной твердости (∅150-450), бруски хозяйств., столярные, "Лодочка", круги армированные. Зачистные 5П и ПП (∅150-230), отрезные армированные (∅100-500), отрезные вулканитовые (∅150-300) мм, (пр-во Италия, Германия, Украина, Россия), лепестковые ∅150, 350; на фибре ∅180, 230, круги резиноабразивные, наборы шарошек, сегменты шлифовальные, шлифшкурку тканевую и водостойкая все номера;
**АЛМАЗНЫЙ:** круги, чашки, тарелки, карандаши, пасту.
**РАЗНОЕ:** замки навесные, розетки открытые, скрытой проводки, кабели, лампочки, изоленту, рукавицы тканевые х/б, кожаные, "диагональ", перчатки рабочие, сапоги рыбацкие, боты диэлектрические, халаты х/б муж, и жен., костюмы рабочие х/б, прорезиненные, брезентовые, водопроводчика, сварщика, канистры, куртки ватные, каски строительные, краги сварщика, брезентов., перчатки и коврики диэлектр., пояса монтажн., когти, полотенца вафельные, мыло хозяйств, лестницы-стремянки, замки врезные, защелки, бензопилы "Дружба", "Урал", "Тайга", "Парма", "STIHL", домкраты, знаки аварийные, пасту для чистки рук, очки для газосварки, защитные, стекло сварщика, респираторы Р-2, ведра, шланги, вулканизаторы дорожн., чалки, стропы, вилы навозн., косы, бензокосы, грабли, секаторы, кусторезы, тележки, веники, ареометры, тесторы, канифоль, опрыскиватели, станки заточные, бормашины, гидрорастяжки.

Форма оплаты: предоплата или по чековой книжке.

**ОТДЕЛЫ РЕАЛИЗАЦИИ ИНСТРУМЕНТА:**
в Минске: (017) 244-31-52, тел./факс: 244-37-31, 244-37-41, 244-11-64, 244-55-64
Адрес: Минск, пер. Промышленный, 12, промбаза Шабаны. Заезд с кольцевой дороги вдоль реки Свислочь
в Могилеве: пос. Казимировка, ул. Авиаторов, 7, тел. ........ (0222) 321-199, 260-882;
в Витебске: ул. Гагарина 222 А, тел. ........ (0212) 232-222, 232-244;
в Гродно: ул. Индустриальная, 2, тел. ........ (01522) 53-911;
в Бресте: ул. Я. Купалы, 111, тел. ........ (0162) 450-628;
в Гомеле: ул. Шилова, 12 тел. ........ (0232) 565-133;
в Бобруйске: ул. Менжинского, 2, тел. ........ (02251) 21-042.

**КАНЦТОВАРЫ** Тел. (017) 244-31-64. Ручки шариковые, папки-скоросшиватели, папки-планшеты, карандаши механические, наборы настольные, календари настольные 1998 г., ежедневники 1998 г., тайм-менеджеры, папки-регистраторы, штемпельные автоматы и подушки, клеящие карандаши, дыроколы, дипломаты, степлеры, визитницы, бумага писчая и для ксерокса, чековая лента, конверты А4, корректирующую жидкость;
**СТРОЙМАТЕРИАЛЫ** Тел. (017) 244-37-01, 244-37-22, 244-55-34. ДСП, ДСП ламинированное, ДВП, ДВП ламинированное, доски, пиломатериалы, дверные и оконные блоки, фурнитура, стекло, трубы, сантехника, утеплительные материалы, кирпич, обои, линолеум, плитка керамическая, панели, светильники, радиаторы, пленка п/э, жесть, цемент, мел, известь, штукатурный раствор, пена монтажная, краски, лаки, олифа, растворители, керосин, клей, солидол, сетка и многое другое.

SALVE

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі. Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі. Матэрыялы, пазначаныя значком носяць рэкламны характар. Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 87.610. Індэкс 63850.
Зак. № 3350.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12